— Што але, дзеравеншчына няшчасная! Калі не разабраўся, дык не алекай.

— Не разабраўся?! Што-што, а святло ад цемры адрозню. Гэта ж вы называлі Леніна і бальшавікоў нямецкімі агентамі, а самі следам за здачай Рыгі хочаце і Піцер здаць немцам, каб задушыць рэвалюцыю ў Расіі.

— Цікава! А што ты яшчэ скажаш нам? Чым здзівіш?

— Здзіўляць нікога і нічым не збіраюся. А вывад войск са сталіцы і падвоз да сталіцы казакаў, а таксама акружэнне Мінска казакамі разглядаю як падрыхтоўку да новай карнілаўшчыны. От што я скажу, бледная немач!



Пачуліся ўхвальныя галасы:

— Вось дык дзеравеншчына!

— Ай, добра адсцябаў!

Усе засмяяліся.

— Руку, таварыш, за храбрасць! Адкуль будзеш?

— З-пад Оршы.

— Зямляк! А я з Тураўшчыны.

Яны пазнаёміліся:

— Мікола Каўтун!

— Апанас Лучына!

— Што новага на бацькаўшчыне?

— Навіны ўсюды адны: кожны дзень ідзе жорсткая барацьба паміж старым і новым. Людзі гатовы ўзяцца за дубіны. Новае абавязкова пераможа — такі закон жыцця.

— А ці праўда, што беларусы пайшлі за бальшавікамі?

— Праўда. І не толькі рабочыя, але і сяляне.

— Ганаруся гэтым!

Размаўляючы, Каўтун і Лучына аддзяліліся ад натоўпу. Убачыўшы на лаўцы Краеўскага, падышлі да яго.

— Віктар Іванавіч, добры дзень! Чым парадуеце? — запытаўся Каўтун.

— Толькі што бачыў Леніна,— ззяў Краеўскі.

— Бачылі Леніна? — здзівіўся Каўтун.— Скажыце, доўга яшчэ мы будзем цярпець здзекі часовых?

— Дні іх злічаны.

— Прабачце, гэта Лучына, [redacted] Беларусі, пад Оршай жыве,— адрэкамендаваў Каўтун.

— Вельмі прыемна,— падаў руку Краеўскі.— Можа, ведаеце Лепяшынскага?

— Панцеляймона Мікалаевіча? А як жа! Пад яго кіраўніцтвам працую. Ён мяне паслаў у Піцер да Свярдлова паведаміць, што сялянства Беларусі падтрымае рабочых.

— Вельмі добра,— сказаў Краеўскі.— Калі ёсць час, паедзем да нас на завод, пераканаецеся, што рабочыя гатовы да бою. Раскажаце ім аб настроях сялян. Масы [redacted] адкрытымі сэрцамі сустракаюць буру. Мы пераможам!

*1963 г.*

# НА БЕРАГАХ НЯВЫ



25 кастрычніка 1917 года ўвесь дзень і вечар у Петраградзе дзьмуў сыры, халодны паўночна-заходні вецер. Лужыны на вуліцах, гразь. Перад Смольным гарэлі кастры. Ля ўвахода ў Смольны стаялі кулямёты, гарматы і браневікі. Вартавыя дзелавіта правяралі прапускі, некаторыя адбіралі — начэплівалі на штыкі. Паміж свабоднымі ад заданняў

людзьмі вялася ажыўленая гаворка, абмяркоўваліся падзеі дня.

— Калі ў лютым адчувалася стыхійнасць, выбух народнага гневу, дык у кастрычніку небывалы рэвалюцыйны пад'ём, арганізаванасць мас,— выказваў свае думкі ўслых камандзір матроскага атрада Каўтун.— Гэта якасна новая рэвалюцыя.

— Так,— згадзіўся камандзір чырвонагвардзейскага атрада Рагозін.

І сапраўды, яе ўдзельнікі адчувалі ўсю складанасць і адказнасць. Яны ўсведамлялі, што вядуць барацьбу з аб'яднанымі сіламі контррэвалюцыі, памешчыкамі і кулакамі, якіх падтрымліваў міжнародны імперыялізм.

— Уладу, можна сказаць, мы даволі лёгка ўзялі,— разважаў Каўтун, грэючы каля агню ногі.— Цяжэй будзе яе ўтрымаць, замацавацца. Гідра контррэвалюцыі не дасць нам спакою.

—Але. Гэта самая бяскроўная рэвалюцыя,— згадзіўся Рагозін.— А толькі буржуазія можа яшчэ ўзняць галаву. Неабходна трымаць вуха востра і порах сухім. Дый узняць эканоміку — нялёгкая справа. Гаспадарка разбурана...

— А ці праўда, што Керанскі ўцёк?

— На жаль, праўда.

Смольны быў ярка асветлены, ён нагадваў баявы лагер. Па калідорах снавалі заклапочаныя, узброеныя людзі. Адны з іх, атрымаўшы заданні, некуды спяшаліся, другія нецярпліва чакалі выкліку ў пакой, дзе працаваў Ваеннарэвалюцыйны камітэт. Невялічкімі групкамі, са змоўніцкім выглядам пахаджалі меншавікі і эсэры, дэлегаты Другога з'езда, шапталіся паміж сабою.

Яшчэ задоўга да адкрыцця Другога з'езда Саветаў у Белай зале Смольнага ішлі пасяджэнні фракцый. Асабліва адчувалася нервознасць у правых «сацыялістычных» элементаў. Яны шаленствавалі, лаялі бальшавікоў, Леніна.

Тое, што не быў яшчэ ўзяты Зімні, хвалявала ўвесь

Смольны. Выкарыстоўваючы гэта, меншавікі і эсэры распускалі розныя хлуслівыя чуткі, якія трывожылі дэлегатаў з'езда бальшавікоў і спачуваючых. Дэлегаты-франтавікі патрабавалі рашучых дзеянняў. Занепакоены Уладзімір Ільіч зноў пасылае запіску ў аператыўную тройку па захопу Зімняга, у якой піша, што яны зацягваюць адкрыццё з'езда і гэтым выклікаюць хваляванне сярод дэпутатаў.

Ленін месца не знаходзіў у маленькім пакоі Смольнага, хадзіў з кутка ў куток, заклаўшы пальцы ў ніжнія кішэнькі камізэлькі. Яму тут было цесна. Ён з хвіліны на хвіліну чакаў падзення Зімняга. З'езд трэба было паставіць перад фактам — звяржэннем Часовага ўрада.

На першым пасяджэнні Другога з'езда Саветаў Ленін не прысутнічаў: ён быў заняты неадкладнымі справамі па кіраўніцтву ўзброеным паўстаннем, у гэты ж дзень выступаў у Петраградскім Савеце, пазней падбіраў і перачытваў патрэбныя матэрыялы, рабіў нататкі, прадумваў першыя крокі маладой дзяржавы рабочых і сялян.

Пасяджэнне з'езда праходзіла бурна. Меншавікі і эсэры ўзнялі шум з прычыны захопу бальшавікамі ўлады. Групка меншавікоў і іншых агентаў контррэвалюцыі пакінула залу пасяджэнняў. Увесь з'езд праводзіў іх абуранымі выкрыкамі: «Вон адсюль!», «Далой здраднікаў!»

Ішла трэцяя гадзіна ночы. Адзін з кіраўнікоў па захопу Зімняга палаца, Падвойскі, застаў Леніна за работай. Ільіч да таго паглыбіўся ў яе, што і не заўважыў, як да яго зайшлі.

— Уладзімір Ільіч! — усхвалявана вымавіў Падвойскі.— Зімні ўзяты. Часовы ўрад арыштаваны і адпраўлены ў Петрапаўлаўскую крэпасць. Узмоцнена варта ў Генеральным штабе, штабе акругі, Міністэрстве замежных спраў, на паштамце і на тэлефоннай станцыі. Астатнія войскі разышліся па казармах. Чырвонагвардзейцы — па сваіх раёнах. Страты невялікія. Зараз вядзецца падлік. Шкада толькі, што Керанскі ўцёк.

— Цяпер Керанскі не страшны,— заўважыў Ленін.— Усякі, хто падніме галаву супраць рэвалюцыі, будзе сцёрты з твару зямлі. Масы, бацюхна, падняліся. А гэта такая сіла, якую нікому не адолець! — Уладзімір Ільіч падумаў.— Хоць Керанскі яшчэ можа нашкодзіць. Куды ён мог падацца?

— Вядуцца размовы, што на фронт, там шукае ратунку,— адказаў Падвойскі.— Па неправераных звестках, генерал Красноў абяцае Керанскаму паспрабаваць вярнуць уладу.

— Гм-гм. Усё магчыма,— устаў, заклаў рукі пад пінжак Ленін.— Такая спроба можа быць і не адзін раз. Пашу дакладна разведаць. І рэвалюцыйныя сілы трымаць у поўнай баявой гатоўнасці. Вельмі складана ўзяць уладу ў свае рукі, а яшчэ складаней яе ўтрымаць.

Наперадзе вялікія цяжкасці — аднаўленне і развіццё народнай гаспадаркі, але з гэтым бальшавікі справяцца. Рэвалюцыйная Расія пракладзе шлях да сацыялізма і камунізма!

— Ясна.

Ленін сеў і зноў паглыбіўся ў работу. Хоць і стаяла чарнільніца і ляжала ручка, але ён занатоўваў агрызкам карандаша. Падвойскі асцярожна абняў Уладзіміра Ільіча, моцна пацісну ў яму плечы і ціха выйшаў з пакоя. У калідоры Падвойскі, спаткаўшыся з Ерамеевым, натхнёна прамовіў:

— Які слаўны дзень!

— Але,— вымавіў Ерамееў.— Зара новага жыцця. Я толькі што чуў разважанні аднаго рабочага-пуцілаўца. Ён так гаварыў: сёння ў горадзе на берагах Нявы, гэта значыць над Расіяй, бальшавікі на чале з Леніным узнялі пунсовы сцяг. А ў будучым такі ж сцяг будзе развявацца над усім светам. Па-рабочаму, проста і ясна. Няблага сказана?

— Вельмі добра! Гэта будзе!

Усе пакоі, даўгія калідоры Смольнага запоўнены людзьмі. Патыхала махоркай і потам.

Тры гадзіны сорак пяць хвілін ночы. Члены Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта, стомленыя, але ўсхваляваныя, збіраліся разыходзіцца са Смольнага, каб адпачыць.

— А як быць з Ільічом? — пытаецца Падвойскі.— Ён усё яшчэ працуе. Дзе яму начаваць?

— Я запрашу Уладзіміра Ільіча паехаць да мяне адпачыць,— прапанаваў Бонч-Бруевіч. Ён увесь дзень правёў у Смольным, памагаючы наладзіць работу сакратарыята.

Усе з гэтым пагадзіліся.

— А толькі трэба праверыць, ці ўсё ў парадку ў раёне,— параіў Ерамееў.

— Абавязкова.— Бонч-Бруевіч пазваніў па тэлефоне.— Раждзественскі райком? Як у вас справы? Так, гэта я. Усё ў парадку? Добра. А ўсё ж праверце вуліцы, якія прылягаюць да маёй кватэры па Херсонскай. Вам усё зразумела, для чаго гэта трэба? Вельмі добра. Пашліце самых надзейных людзей.

Праз некаторы час у пакой да Леніна зайшоў Бонч-Бруевіч.

— Уладзімір Ільіч! Неабходна было б вам адпачыць. Паедзем да мяне.

— А такі варта,— згадзіўся Ленін і пачаў збіраць паперы.— Я, Уладзімір Дзмітравіч, у вашым распараджэнні. Гатоў паспаць гадзінку. Работы набралася многа. Але ж і кароткія дні пайшлі.



Выйшаўшы з пакоя, Уладзімір Ільіч убачыў у калідоры на падлозе салдата. Ён, расхлістаны, з прыціснутай да грудзей вінтоўкай, пахрапваў. Ленін асцярожна, каб не разбудзіць, прыкрыў яго шынялём.

Апынуўшыся на двары, яны агледзеліся. Мірна спаў горад. Толькі Смольны быў асветлены.

— Як свабодна дыхаецца,— пранікнёна вымавіў Бонч-Бруевіч.

— Вецер веку,— удакладніў Уладзімір Ільіч.— Ён пройдзе па ўсёй зямлі... Абавязкова пройдзе!

Яны селі ў аўтамабіль і паехалі. Бонч-Бруевіч, седзячы спераду, усю дарогу глядзеў пільным вокам, а Ленін, стомлены, падрэмваў у машыне.

Дома Бонч-Бруевіч накрыў стол. Пачастунак быў хоць і небагаты, але ад душы. Павячэраўшы, яны сталі ўкладвацца спаць.

Бонч-Бруевіч прапанаваў Уладзіміру Ільічу свой пакой. Там быў ложак, пісьмовы стол і бібліятэка. Уладзіміра Ільіча спакушала тое, што ён яшчэ здолее папрацаваць, а ўсё ж з тактоўнасці ён адмовіўся займаць ложак гаспадара.

— Не, не, Уладзімір Дзмітравіч, навошта мне асобны пакой, я перасплю і на канапе.

— Ні ў якім разе,— катэгарычна запярэчыў Бонч-Бруевіч.— Вы мяне пакрыўдзіце. Вам трэба адпачыць.

— Ну што ж, згода.— І Уладзімір Ільіч прайшоў у прыгатаваны для яго пакой.— Умовімся, Уладзімір Дзмітравіч, адразу класціся спаць.

— А як жа!

Хутка лямпа ў пакоі Уладзіміра Ільіча пагасла, а неўзабаве і Бонч-Бруевіч патушыў святло ў сталовай. Ужо Бонч-Бруевіч драмаў, вось-вось павінен быў заснуць, як у пакоі Уладзіміра Ільіча запалілася лямпа. Бонч-Бруевіч прыгледзеўся. Уладзімір Ільіч паціху падышоў да дзвярэй, паслухаў, ці спяць, прычыніў дзверы, сеў за пісьмовы стол, на-

хіліўся і пачаў працаваць. Бонч-Бруевіч не стаў перашкаджаць і падумаў: «Колькі ў Леніна энергіі... От гэта чалавек!»

Раніцаю Уладзімір Дзмітравіч устаў першы і сказаў сваім, што Уладзімір Ільіч адпачывае не больш дзвюх-трох гадзін. Усе ў доме хадзілі ціха, каб не разбудзіць дарагога госця. І якое было здзіўленне, калі неўзабаве выйшаў з пакоя Уладзімір Ільіч. Ён быў у добрым настроі, бадзёры.

— З першым днём сацыялістычнай рэвалюцыі! — весела павіншаваў ён прысутных і пайшоў мыцца.

— Уладзімір Ільіч! — нёс за ім ручнік Бонч-Бруевіч.— Вы ж бы яшчэ паспалі. Колькі ў вас таго сну было? Ужо світала, як патушылі лямпу.

— Цяпер нам, бацюхна, прыйдзецца часта недасыпаць,— запярэчыў Ленін.— Мы абяцалі скасаваць памешчыцкую ўласнасць на зямлю. Дык трэба неадкладна выконваць. Гэта архіважна!

У час снедання Уладзімір Ільіч прачытаў напісаны ім праект Дэкрэта аб зямлі, якім памешчыцкая ўласнасць адмяняецца, усе памешчыцкія землі, як і землі ўдзельныя, манастырскія, з пабудовамі, жывым і мёртвым інвентаром пераходзяць у распараджэнне зямельных камітэтаў Саветаў.

— Ну і як? — пыталіся вочы Леніна.

— Гэты праект Дэкрэта, які з сённяшняга дня стане дакументам,— выдатнейшая старонка гісторыі нашага веку,— усхвалявана сказаў Бонч-Бруевіч.

І яны паехалі ў Смольны. Там Уладзімір Ільіч напісаў праект Дэкрэта аб міры. У ім прапанавалася ўсім ваюючым народам і іх урадам пачаць неадкладна перагаворы аб міры на ўмовах адмовы ад захопу чужых зямель і кантрыбуцый, неадкладнага заключэння перамір'я.

Увечары ў Белай зале Смольнага працягвалася работа Другога з'езда Саветаў. Зала была перапоўнена. Тут прысутнічалі не толькі дэлегаты з'езда, але і рабочыя, салдаты

і матросы. Калі на трыбуне з'явіўся Ленін, людзі ў зале падняліся, адны падаліся да сцэны, другія сталі на падаконнікі, выступы калон, на крэслы, усім хацелася ўбачыць Уладзіміра Ільіча. Угару ляцелі шапкі, кепкі, матроскія бесказыркі. Воплескі перамяшаліся з крыкамі радасці. Уладзімір Ільіч доўга не мог гаварыць. Ніякія ўпрошванні не дзейнічалі. Нарэшце людское мора ўтаймавалася. Зала сціхла. З'езд стоячы слухаў даклад Леніна аб міры.

Прамова Уладзіміра Ільіча была вельмі кароткая. На яго думку, пытанне аб спыненні вайны з'яўляецца адным з галоўных. Ён прачытаў праект Дэкрэта аб міры, які ўносіўся партыяй бальшавікоў на разгляд з'езда.

Яшчэ Ленін у дакладзе гаварыў аб адмене тайнай дыпламатыі і заключаных тайных дагавораў. Як у дакладзе, так і ў заключным слове Уладзімір Ільіч падкрэсліваў, што нашы ўмовы на перагаворах не павінны быць ультыматыўнымі. Наша палітыка павінна быць гнуткай. Нельга даваць прыхільнікам прадаўжэння грабежніцкай вайны карты ў рукі. Мы павінны быць гатовы да разгляду іншых прапаноў. Ленін папярэджваў: спыніць вайну і заключыць мір — справа нялёгкая, буржуазныя ўрады могуць паспрабаваць задушыць сацыялістычную рэвалюцыю.

Горача абмяркоўвалі дэлегаты з'езда праект Дэкрэта. З'езд з натхненнем прыняў Дэкрэт аб міры. Дэлегаты наладзілі Леніну авацыю.

— Бачыш, у першы ж дзень Савецкай улады вырашана такое пытанне, якое Часовы ўрад не мог вырашыць на працягу васьмі месяцаў,— разважаў уголас Краеўскі.

— Партыя бальшавікоў ведае, чым жыве народ, што яго хвалюе,— пагадзіўся Сяргей.

Па пытанні аб зямлі таксама выступіў Ленін, сустрэты бурнымі воплескамі. Зноў яму доўга не давалі гаварыць. Асабліва апладзіравалі салдаты і матросы, выхадцы з сялян. Уладзімір Ільіч гаварыў, што Часовы ўрад, меншавікі і эсэры адцягвалі вырашэнне зямельнага пытання.

Прачытаўшы праект Дэкрэта аб зямлі, Ленін тлумачыў, што ў Дэкрэце змешчан наказ зямельных камітэтаў, састаўлены на аснове двухсот сарака наказаў мясцовых Саветаў сялянскіх дэпутатаў. Аднадушна прыняўшы Дэкрэт аб зямлі, дэлегаты трыумфавалі.

— Ай, навіна дык навіна! — усклікнуў Лучына.— З ёю можна і дадому вяртацца.

— А колькі барацьбітоў за шчасце народа склала галовы,— успомніў Каўтун.— Нарэшце ўзяла верх праўда! І дарожку да яе праклаў Ленін, бальшавікі...

Узбуджаныя дэлегаты і госці ў часе перапынку ўсхвалявана абмяркоўвалі падзеі гістарычнай важнасці, якія тольві што адбыліся. З першага дня існавання Савецкай улады вызначылася яе мірная палітыка, клопаты аб працоўным чалавеку.

У гэты ж час у невялічкім пакойчыку Смольнага, дзе на крэслах ляжалі пакіданыя ў беспарадку паліто і шапкі, пры цьмяным святле адбывалася вылучэнне кандыдатур у Савет Народных Камісараў. Прапанаваную Уладзіміру Ільічу пасаду кіраўніка абноўленай Расіі ён адразу прыняў. Пачалося вылучэнне людзей на пасады камісараў. Тут было шмат гаворкі. Асабліва нерваваўся ўжо названы першым наркомам асветы Луначарскі. Ён увесь час церабіў бародку, яму здавалася, што некаторыя людзі не падыходзяць на пасады, на якія яны вылучаюцца, што яны не справяцца са сваімі абавязкамі. Ленін адмахваўся ад Луначарскага, з усмешкай гаворачы:

— Пакуль — там паглядзім... Патрэбны адказныя людзі на ўсе пасады; калі не апраўдаюць давер'я — здолеем змяніць.

Ленін хутка вырашаў складаныя пытанні. Час ад часу на яго вялікім ілбе з'яўляліся дзве глыбокія складкі, часам прыжмурваліся пранікнёныя вочы, якія на дзіва былі спакойныя. Ён цяпер нагадваў вопытнага капітана акіянскага карабля. Смеласць і бясстрашнасць, якімі валодаў

Уладзімір Ільіч, перадаваліся і прысутным. Многія з іх не вагаючыся згаджаліся ўзяць кіруючыя пасады, хоць і ведалі, што гэта нялёгкая справа. З Леніным ніякая бура не страшна!

Раніцаю з'езд абраў Савецкі ўрад на чале з Леніным. Так пачалася новая, сацыялістычная эра ў гісторыі чалавецтва.

*1963 г.*

## ХАДАКІ



Гарачы ліпень. Нават ноччу душна. Рана прачнуўся Уладзімір Ільіч. Ён на дыбачках прайшоў памыцца, вярнуўся, ціхенька адзеўся, каб не патрывожыць сну Надзежды Канстанцінаўны, і збіраўся пайсці на прагулку, як убачыў, што яна за ім наглядае.

— Даруй, Надзюша, я не хацеў цябе разбудзіць.

— Ты ж бы, Валодзя, яшчэ паспаў.

— Я прайдуся.

— То і я ўстаю.

— Не-не,— запярэчыў ён.— Прашу цябе! Праз мяне і табе ніколі спакою няма.

Надзежда Канстанцінаўна паслухалася і заплюшчыла вочы. Уладзімір Ільіч узяў загорнутыя ў паперу крошкі (корм галубам) і паціху выйшаў. Тады яна ўстала.

«Чым ён сёння будзе заняты?» — адкрываючы вокны, падумала Надзежда Канстанцінаўна. На лістку паперы, што ляжаў на стале, значылася: «Ліпень, 19. Прыём дэлегацыі з'езда беларусаў-бежанцаў. Пасяджэнне СНК. Пытанні: аб цэнтралізацыі радыётэхнічнай справы; аб падрыхтоўцы экспартных тавараў; аб тылавым апалчэнні і правілах рэгістрацыі паразітычных элементаў грамадства. Мітынг у Лефортаўскім раёне. Выступіць з прамовай аб міжнародным і ўнутраным становішчы». І яшчэ запісы: «Чс. ф.» і «П. акуп. Б-ку англ.» Што гэта значыць? Надзежда Канстанцінаўна прыбрала ў пакоі і пайшла к умывальніку. Пасля гэтага пачала рыхтаваць снеданне, паставіла гатаваць ваду на каву, парэзала васьмушку хлеба, пакалола цукар кавалачкамі, ачысціла і парэзала на талерку тарана. Увесь час у яе не выходзіў з галавы скарочаны запіс. Нарэшце Надзежда Канстанцінаўна ўсё ж расшыфравала: Чс. ф.— Чэхаславацкі фронт; П. акуп. Б-ку англ.— Падрыхтоўка акупацыі Баку англічанамі. «Дык вось што непакоіць Уладзіміра Ільіча,— падумала яна.— Гэта яго трывожыць — таму і не спіцца».

Ленін перш хацеў ісці да Спаскіх варот, каб выйсці ў горад і прайсціся ля Крамлёўскай сцяны па алеі (унутры Крамля кожная сцежка яму знаёма), але, паглядзеўшы на гадзіннік, вырашыў тут пахадзіць. Ужо сонца ўзышло, асвятліўшы залатыя купалы сарака саракоў маскоўскіх цэркваў і двухгаловыя арлы на крамлёўскіх вежах. Калі Уладзімір Ільіч праходзіў, з-пад дахаў дамоў вылятали га-

лубы, апускаліся на брук, буркаючы, бегалі і шукалі спажывы. Наблізіўшыся да іх, Ленін разгарнуў паперку і сыпнуў крошкі ад хлеба. Галубы адзін перад адным хутка здзяўблі, узняліся і паляцелі. Дастаткова было, каб хто адкрыў фортку ці акно, як яны ўжо былі там. Але найбольш галубы кружылі над агульным памяшканнем школы ЦВК,— відаць, там часцей за ўсё ім сёе-тое перападала. І цяпер, мусіць, повар з акна нечага жменю сыпнуў — галубы, а за імі вераб'і, што былі «на варце», стрымгалоў падалі на брук. Паміж галубамі і вераб'ямі ўзнікла бойка. Усё ж вераб'і ўхітраліся тое-сёе выхапіць і сабе. Ідучы, Уладзімір Ільіч заўважыў, што на бруку, паміж каменнямі, парасла трава, але ўсюды верхавінкі яе сашчыпаны, пэўна, птушкамі. «Не толькі людзям, але і птушкам блага,— падумаў ён.— А круг робіцца ўсё меншы. Адусюль ворагі націскаюць. Нічога, выстаім!»

Калі б ні праходзіў Уладзімір Ільіч каля Успенскага сабора, заўсёды любаваўся ім. Вось і цяпер спыніўся, каб падзівіцца, на што здатны чалавек.

— Добрай раніцы, Уладзімір Ільіч! — падышоў Бонч-Бруевіч.— Што так рана ўсталі?

— А вы, Уладзімір Дзмітравіч, куды?

— Да пасяджэння СНК трэба падрыхтаваць справы,— паведаміў Бонч-Бруевіч, таксама паглядаючы на сабор.— Падабаецца?

— Геніяльнае тварэнне рускай архітэктуры,— захапляўся Уладзімір Ільіч.

Яны пайшлі разам.

— А вы не забылі, Уладзімір Ільіч, пра хадакоў ад беларусаў?

— Помню, помню, Уладзімір Дзмітравіч,— сказаў Ленін.— Цікава іх паслухаць... Шматпакутны народ...

— На скрыжаванні дарог жывуць,— разважаў Бонч-Бруевіч.— З аднаго боку польскія паны і літоўскія князі, а з другога — царскія чыноўнікі прыгняталі...

— І ні адна вайна іх не мінала,— спачуваў Уладзімір Ільіч.— А цяпер кайзераўцы заняволілі, але гэта ненадоўга, хутка панаванне іх скончыцца.

— Хутка? — спыніўся Бонч-Бруевіч.— Але ж створаная так званая рада БНР на чале з памешчыкам фон Скірмунтам можа затрымацца.

— Фон Скірмунтам? — засмяяўся Ленін.

— Але, ён так падпісаўся пад вернападданніцкай тэлеграмай на імя кайзера Вільгельма II, у якой нацыяналісты прасілі далучыць Беларусь да Германіі. Я сваімі вачыма чытаў тэкст тэлеграмы ў газеце «Дзянніца».

— Не затрымаецца. І Скірмунту з яго кампаніяй прыйдзецца за сваімі заступнікамі цягнуцца ў абозе. Беларусы ў тыле праціўніка падняліся на бой.

Бонч-Бруевіч пайшоў у СНК, а Ленін трохі прайшоўся і павярнуў да свае кватэры. Ён вырашыў, пакуль Надзежда Канстанцінаўна адпачывае, згатаваць чай. І якое было здзіўленне Уладзіміра Ільіча, калі ён, увайшоўшы ў пакой, убачыў гатовае снеданне. Значыць, яна даўно не спала.

— Ах, Надзюша, хацеў хоць раз вызваліць цябе ад кухні, ды не выйшла,— шкадаваў ён.— І калі ўжо наладзім грамадскае харчаванне? Колькі ў жанчын хатніх клопатаў!

— А я гэта раблю з ахвотай,— запрашаючы да стала, усміхнулася яна.— У мужчын неяк нязграбна выходзіць.

— Вось гэтым яны і карыстаюцца.— Ільіч накінуў на плячо ручнік, схадзіў памыць рукі і, вяртаючыся, спытаў: — Чым, Надзюша, частуеш?

— Усё тым жа, Валодзя, нічога новага,— зняўшы сурвэтку з хлеба, тарана і цукру, пачала налiваць каву Надзежда Канстанцінаўна.

— Кава? Вось гэта добра.

— Уся ўжо.

— І так ты надоўга расцягнула. Жанчыны — ашчадныя. А ў нашага брата не выходзіць! То густа, то пуста.

Марнатраўцы. А прыйдзецца часова яшчэ тужэй падперазаць папругу.

Яны селі за стол і пачалі снедаць.

— Што, чэхаславацкі корпус разбушаваўся?

— Гм, гм. Адкуль табе вядома?

— З твайго запісу.

Уладзімір Ільіч усхапіўся, узяў лісток паперы, пагледзеў і здзівіўся.

— Расчытала,— падышоў да яе Ленін.— А што тут напісана? Ага! Загадка?

— Падрыхтоўка акупацыі Баку англічанамі.

— Добра мець такую спадарожніцу жыцця,— нахіліўся і сціснуў яе за плечы Уладзімір Ільіч.— Вернага друга і саратніка. Архіважна! У народзе з гэтае прычыны кажуць: лепей з разумным згубіць, чым з дурнем знайсці. Правільна?

— Мы страцім Сібір? Такое багацце! І таксама Баку? Першакласны прамысловы цэнтр!

— Ні ў якім разе! — пасуравеў Уладзімір Ільіч.— А толькі гэта нам будзе дорага каштаваць. Прыйдзецца піцерскіх рабочых пасылаць на чэхаславацкі фронт, павесці рашучую барацьбу супраць паводзін «народніцкай фракцыі» Бакінскага Савета, што рыхтуе глебу для акупацыі Баку англічанамі.

Скончыўшы снеданне, яны хутка прыбралі посуд і разам пайшлі на работу. Надзежда Канстанцінаўна на пасяджэнне калегіі Народнага Камісарыята асветы, а Уладзімір Ільіч у Савет Народных Камісараў.

Ленін застаў у СНК Фоціеву. Ён павітаўся, запытаў, ці ёсць пошта, і хацеў прайсці ў свой кабінет.

— Уладзімір Ільіч! — разгарнула пакунак і паказала на палавіну каравая духмянага хлеба Фоціева.— Гэта вам прынёс чырвонаармеец і сказаў: «Няхай паесць, час цяпер галодны».

— Можа, яму што-небудзь трэба было?

— Прасіў толькі аднаго: хоць здалёку паказаць Ільіча. Я праз акно бачыла, як ён на вас углядаўся.

— Гм, гм, Лідзія Аляксандраўна! Колькі разоў я вас прасіў не прымаць ніякіх падарункаў!

— Я ніяк не магла яго адгаварыць.

— Аддасцё хлеб дзецям.

— Добра,— паціснула вострымі плячыма Фоціева.

Увайшоўшы ў кабінет, Ленін сеў за пісьмовы стол і, адклаўшы паперы ўбок, пачаў чытаць «Праўду», праглядаў іншыя газеты, рабіў паметкі: падкрэсліваў, ставіў птушкі, клічнікі і пытальнікі, часам занатоўваў нешта ў блакнот.

Фоціева загарнула хлеб у газету і адправіла ў дзіцячы сад. Неўзабаве ў прыёмную ўвайшла дэлегацыя з'езда беларусаў-бежанцаў, ці, як іх назваў Бонч-Бруевіч, хадакоў ад беларусаў. Іх было трое. Павітаўшыся і назваўшы сябе, узрушаныя, засаромленыя, яны стаялі, пераступаючы з нагі на нагу. Фоціева, звяртаючыся да іх, запісала прозвішчы.

— Я зараз далажу Уладзіміру Ільічу,— абвясціла яна.— Не ведаю толькі, калі ён вас прыме. У яго шмат неадкладных спраў.

— Мы пачакаем...

— Чаму вы не садзіцеся? Сядайце, калі ласка!

— Дзякуем,— сеў на крэсла ў чахле кіраўнік дэлегацыі. І астатнія двое прыселі, разглядаючы прыёмную. Тут усё было вельмі проста, нічога лішняга. Дэлегаты пачалі заспакойвацца.

Фоціева зайшла ў кабінет.

— Уладзімір Ільіч! — яна паклала на стол паперку.— Беларусы прыйшлі.

— Хто яны? — Узяў у рукі паперку і пачаў чытаць Ленін: — Грыцук, Бубен, Шастак. Гм, гм. Цікавыя прозвішчы!

— Што ім сказаць? Вы не паспелі яшчэ прагледзець пошту, там ёсць важныя паперы. Дэлегаты гатовы пачакаць.

— Не-не-не! — устаў з-за стала Ленін.— Завіце!

Лідзія Аляксандраўна выйшла, пакінуўшы дзверы адчыненымі.

Дэлегаты нясмела ўваходзілі, камечачы шапкі ў руках. Усе як на падбор рослыя, адзін у форме чыгуначніка, астатнія ў паношанай цывільнай адзежы, але ў чыстых кашулях.

— Смялей, смялей, таварышы! — ішоў насустрач Ленін. Павітаўшыся, ён жэстам рукі паказаў на крэслы каля століка і сам сеў насупраць дэлегатаў.— Хто з вас Грыцук? — звярнуўся да дэлегата, які ішоў першы, Уладзімір Ільіч.

— Я.

— А вы будзеце Бубен? — паглядзеў на другога ён.— Не памыліўся.

— Не.

— Вы Шастак?

— Але.

— Вось мы збольшага і пазнаёміліся,— усміхнуўся Ленін.— Дык я вас слухаю, таварышы! Можа, вы пачняце? — звярнуўся ён да Грыцука.— Калі не памыляюся, вы працуеце ў Беларускім Нацыянальным Камісарыяце?

— Так,— пасмялеў Грыцук.

— Дык вам, як кіраўніку дэлегацыі, і па штату належыць! — засмяяўся Ленін.

Адразу з'явілася шчырасць.

— Перш за ўсё, Уладзімір Ільіч, дазвольце вам паведаміць, што вас аднагалосна выбралі ганаровым старшынёю з'езда беларусаў-бежанцаў.

— Дзякуй! А на якой мове вядзецца з'езд?

— Усе ў дзяцінстве гаварылі па-беларуску, але цяпер некаторыя саромеюцца свае мовы і выступаюць па-руску,— адказаў Бубен.

— Чаму? — здзівіўся Уладзімір Ільіч.— Хоць у свой час і ў Расіі — праўда, арыстакраты — лічылі рускую мову грубай...

— Беларускую мову розныя паны і падпанкі называлі мужыцкай,— тлумачыў Грыцук.

— Памешчык Скірмунт, у якога я працаваў на бровары недалёка ад Пінска, іначай не называў нас, як «хамы»,— уставіў Шастак.

— Даруйце, што значыць бровар?

— Вінакурня.

— Ага! А хто па нацыянальнасці Скірмунт?

— Беларус-католік.

— Ха-ха-ха! — весела засмяяўся Ленін.— А цяпер зрабіўся немцам. Падпісваецца фон Скірмунт.

— А што яму нацыянальнасць і вера, грошы — яго кумір. Былі б англічане — стаў бы англафілам.

— А цяпер дзе працуеце? — з цікаўнасцю глядзеў на Шастака Уладзімір Ільіч.

— На Куршчыне, па сваёй жа спецыяльнасці.

— А вы? — павярнуўся да Бубена Уладзімір Ільіч.

— Я з-пад Брэста — селянін,— разгладзіў пышныя вусы Бубен.— Працаваў у Наўгародскай губерні ў маёнтку батраком. Цяпер у нас саўгас...

— А я з Баранавіч,— паведаміў Грыцук.— Паравозны машыніст. Але цяпер працую...

— Гэта вядома,— абвёў усіх вачыма Ленін.— І што вы хацелі?

— Калі мы вернемся ў Беларусь? — спытаў Грыцук.

— Цягне на радзіму. Гэта пачуццё мне зразумела, нічога няма мілей за родны кут,— глянуў на яго Ленін і адказаў пытаннем на пытанне: — А што вы будзеце рабіць, калі апынецеся дома?

— Перш за ўсё Скірмунта каленам пад зад,— паспяшыў з адказам Шастак.

— А потым возьмемся за аднаўленне Савецкай улады,— дадаў Бубен.— Родная яна нам. Зямлі ніхто не дасць селяніну, акрамя бальшавікоў.

— А хто з вас бальшавік? — пацікавіўся Ленін.

— Мы спачуваючыя,— сумеўся Грыцук.

— Гэта добра, але не зусім,— заўважыў Ленін.

— Не дараслі,— апраўдваўся Шастак.

— Аднак, што такое «кумір» і «англафіл», ведаеце,— смяяўся вачыма Уладзімір Ільіч.

— Вычытаў,— паглядзеў уніз Шастак.

— Гм, гм. Не дараслі,— уголас падумаў Ленін.— А ўладу ў свае рукі хочаце ўзяць. І, нябось, жадаеце стварыць Беларускую рэспубліку?

— Але. Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку. Такая воля з'езда беларусаў-бежанцаў,— паведаміў Грыцук.— Толькі не ведаем, як на гэта глядзяць у вярхах.

— Кожная нацыя мае права на самавызначэнне, на аддзяленне,— хітравата паглядзеў на дэлегатаў Ленін.

— Толькі не аддзяленне,— рашуча запярэчыў Грыцук.— Рабочы клас Беларусі цвёрда стаяў на гэтым і будзе стаяць.

— А сялянства падтрымае,— заявіў Бубен.— Іначай пан Капітал задушыць.

— Гм, гм,— у душы радаваўся Ленін.— Таксама вычыталі?..

— Мы яго на сваёй спіне адчулі,— сказаў Бубен.

— Не ўсё сялянства падтрымае, кулакі не згодзяцца,— выказаў меркаванне Шастак.

— Зразумела,— пагадзіўся Бубен.— Але іх меншасць... міраедаў...

— Вы ўсе даволі добра валодаеце рускай мовай,— заўважыў Ленін.— Толькі вымаўленне часам падводзіць.

— Мы ў свой час вучыліся ў рускай школе,— гаварыў Грыцук.— Але нам хацелася б, каб была беларуская школа. Рускую мову нашы дзеці абавязкова будуць вывучаць, без гэтага ніяк нельга.

— Мова — важнейшы сродак чалавечых зносін,— разважаў Ленін.— А да галоўнага, чаго вы хочаце, мы так і не дайшлі?

— Людзьмі звацца,— паведаміў Грыцук.

Ленін успомніў прачытаны ў перакладзе Максіма Горкага верш Янкі Купалы «А хто там ідзе?», прыгадаў Някрасава, Дабралюбава і іншых пісьменнікаў, якія пісалі пра беларусаў, і ўважліва паглядзеў на дэлегатаў. Уладзімір Ільіч падумаў, што ён мала знае Беларусь і яе людзей, а з таго, што чытаў, многае не адпавядае праўдзе.

— Вось вы сказалі, што мы даволі добра ведаем рускую мову,— парушыў думкі Уладзіміра Ільіча Шастак.— А праз сон я гавару па-беларуску. Гэта заўважыла жонка. Хоць і рускую мову я лічу роднай, але на матчынай мове мне лягчэй размаўляць і думаць...

— Так? — паглядзеў на яго Ленін.— Гэта архіважна! — Ён папрасіў: — Раскажыце мне пра ваш край, пра сваіх людзей.

Слухаючы няхітрыя расказы людзей працы, Ленін дамалёўваў карціну. Ён уяўляў жыццё беларусаў на працягу стагоддзяў. Колькі на палях Беларусі адбылося крывавых драм, дзе не раз вырашаўся лёс Усходняй Еўропы. Уяўляў шматлікія курганы, пра якія гаварыў Грыцук, дзе парахнеюць косці прышэльцаў — і нямецкіх псоў-рыцараў, і татара-мангольскіх захопнікаў, і шведскіх войск Карла XII, і полчышчаў Напалеона, і кайзераўскіх прыблудаў, варвараў XX стагоддзя. Прыгадаў прачытанае пра Францыска Скарыну, які ў 1517 годзе пачаў сваю дзейнасць па кнігадрукаванню, рэвалюцыянера-дэмакрата Кастуся Каліноўскага, што ў 1862 годзе ў газеце «Мужыцкая праўда» заклікаў сялян са зброяй выступіць супраць цара і памешчыкаў. Вельмі ўразіў Уладзіміра Ільіча расказ Шастака. З якім замілаваннем ён гаварыў пра сваё Палессе, люстраныя азёры, сінія стужкі рэчак з нізкімі берагамі, пра «зыбуны» — непраходную дрыгву, «пушыцу» на купінах, «карантышы» — сосны на балоце, пра мноства вадаплаўнай птушкі.

— Балоты — залаты скарб,— гаварыў ён.— Толькі да іх не дайшлі чалавечыя рукі.

А Бубен з веданнем справы расказаў пра прыгажосць Белавежскай пушчы, пра яе шматлікіх жыхароў.

— Прыязджайце да нас, Уладзімір Ільіч, на паляванне,— запрасіў ён.— Не пашкадуеце, будзеце мець лепшую асалоду, чым дзе-небудзь у тайзе.

— Шчыра ўдзячны,— засмяяўся Ленін.— Але цяпер не да гэтага, трэба перш кайзераўцаў прагнаць. Тады Беларусь стане вольнай. Народ сам вырашыць свой лёс. Мы ў ЦК папярэдне абмяркоўвалі гэта пытанне.

— Праўда? — заззяў Грыцук.

— Так. Яшчэ Маркс сказаў: «Няшчасце для народа, які заняволіць іншы народ...» Павінен вас папярэдзіць — біце не толькі мясцовых нацыяналістаў, але і вялікадзяржаўных шавіністаў. Біце адных і другіх!

— А як з мовай? — карцела даведацца Грыцуку.— У нас некаторыя лічаць, што пры сацыялізме не абавязкова размаўляць і пісаць на роднай мове, гэта нібы раз'ядноўвае людзей.

— Чаму?! — здзівіўся Ленін.— Гэта лявацтва!

— Як на мой розум,— гаварыў Грыцук,— дык вырашэнне нацыянальнага пытання ў нас мае міжнароднае значэнне.

— Гэта,— глянуў на дэлегатаў Ленін,— сусветнае пытанне, без пераўвелічэння сусветнае... Гэта скажацца на Індыі, на Усходзе, тут жартаваць нельга, тут трэба быць тысячу разоў асцярожным.— Ленін падумаў.— Шмат часу пройдзе, пакуль людзі прыйдуць да агульнай мовы. Шкодна як адставанне, так і забяганне наперад. Але не трэба зводзіць вырашэнне нацыянальнага пытання толькі да мовы, галоўнае — эканоміка. Расійскі пралетарыят паможа беларусам стаць на ногі. У гэтым яго інтэрнацыянальны абавязак.

Гутарка вялася ўжо больш за гадзіну. Грыцук абвёў вачыма дэлегатаў, і ўсе ўсталі.

— Што перадаць з'езду? — спытаў ён.

— Перадайце ад мяне прывітанне і раскажыце аб усім,

пра што мы гаварылі,— устаў таксама Уладзімір Ільіч.— Шкада толькі, што не здолею выступіць...

— Мы разумеем,— вымавіў Грыцук.— І так у вас адабралі шмат часу. Дзякуем, што прынялі.

Хадакі развіталіся і выйшлі. Зайшла Фоціева, яна прынесла пошту.

— Цікавыя людзі беларусы,— прыжмурыў вочы Ленін.— Сціплыя, далікатныя, але настойлівыя. Пакуль не пачулі пра тое, чаго прыйшлі, не ўсталі. І, па-мойму, інтэрнацыяналісты... Архіважна!..

— І мне яны спадабаліся. Іншыя лезуць напралом.— Фоціева паглядзела на гадзіннік і, выходзячы, напомніла: — Уладзімір Ільіч! Да пасяджэння СНК астаецца паўгадзіны.

— То яшчэ можна папрацаваць.

Ленін сеў за стол і паглыбіўся ў справы.

*1964 г.*

# ПЕРШЫ РЭВАЛЮЦЫЙНЫ



Авантурыстычная палітыка Часовага ўрада на чале з Керанскім, які заклікаў працягваць вайну «да пераможнага канца», цярпела крах. Аб гэтым гаварыла і паражэнне рускай арміі пад Цярнопалем і Чарнавіцамі. Вінаватыя за ліпеньскую ваенную няўдачу былі мілюковы і маклаковы, шульгіны і радзянкі, якія яшчэ ў пачатку чэрвеня патраба-

валі ад імя Дзяржаўнай думы «неадкладнага наступлення» на фронце. Не апошнюю ролю адыграла ў гэтай авантуры і Стаўка, дзе заселі бяздарныя контррэвалюцыйныя генералы, якія хацелі дагадзіць саюзнікам. А тыя толькі рукі пацiралі. Хіба ім шкада простага народа?

У сувязі з паражэннем на фронце ў буржуазным друку з'явіліся артыкулы, якія ў правале ліпеньскага наступлення вінавацілі бальшавікоў. Буржуазныя пісакі сцвярджалі, што ідэя «адмаўлення ад наступлення», якую прапагандавалі бальшавікі, стала ажыццяўляцца не толькі асобнымі салдатамі, але і цэлымі вайсковымі часцямі, якія самавольна пакідалі акопы. Нібыта пад уплывам бальшавіцкай агітацыі салдаты вырашылі, што дэзерціры — не здраднікі, а паслядоўнікі «міжнароднага сацыялізма».

Не верачы паклёпу буржуазнага друку, салдаты ў акопах шукалі сапраўдных прычын няўдачы.

— Хто ўсё ж вінаваты? — пытаўся салдат Крыўдзін.— Няўжо такі бальшавікі?

— Не,— рашуча запярэчыў Вяршынскі.— Усё гэта байкі. Тут нешта іншае...

— А што? Скажы!

— Каб я ведаў...

— Прычыну паражэння на Паўднёва-Заходнім фронце трэба шукаць у непадрыхтаванасці рускай арміі да наступлення, у слабасці камандавання,— умяшаўся ў гаворку фельдфебель Пралыгін.

— А гэта, бадай, правільна,— згадзіўся Крыўдзін.— Нас прадавалі пры цару, нас прадаюць і цяпер і нас жа караюць за гэта!

— Стомленасць салдат,— разгладзіўшы вусы, гаварыў далей Пралыгін,— неразуменне імі мэты наступлення, недавер'е да чужога салдатам каманднага саставу, недахоп снарадаў і артылерыі — усё гэта і вызначыла правал наступлення на фронце.



— Дык пры чым тут бальшавікі? — пацiснуў плячыма Вяршынскі.— Наадварот, бальшавікі папярэдзілі, што наступленне можа праваліцца, і яно правалілася.

Да іх падышоў камандзір роты, прапаршчык Весялоўскі. Кальнуўшы вачыма фельдфебеля, спытаўся:

— Вы хто?

— Я Пралыгін!

— А-а-а, камітэтчык, бальшавік! Фельдфебель Пвалыгін,— Весялоўскі не вымаўляў літары «р»,— вы пвыйшлі сюды, каб пваводзіць васкольніцкую дзейнасць... Дык папяведжваю, што я не дапушчу бватання з немцамі на ўчастку мае воты.

— Гэта ад вас не залежыць. Салдаты самі вырашаць, будуць яны братацца з немцамі ці не. Дарэчы, хутка ж да вас дайшлі весткі, чаго я прыйшоў. Спраўна працуе эсэраменшавіцкая контра! Так, прапаршчык Весялоўскі, салдацкі камітэт за братанне...

— Вызыкуеце, Пвалыгін, патвапіць пад агонь.

— А вы рызыкуеце, прапаршчык Весялоўскі, страціць галаву.

— Я астаюся вевным пвысязе.

— Вы хочаце сказаць, што застаяцеся верным царскай прысязе?!

— Я вас авыштую! — не вытрымаў і схапіўся за рэвальвер Весялоўскі.— Вукі назад!

— Адставіць! — амаль у адзін голас скамандавалі Вяршынскі і Крыўдзін. Яны ўскочылі з вінтоўкамі — заблішчалі на сонцы штыкі.

Прапаршчык апусціў руку. Злосна паглядзеўшы на салдат, прыгразіў:

— Вам, Вявшынскі і Квыўдзін, не мінуць кутузкі!..

— Мы не з палахлівых.— Крыўдзін усміхнуўся.

Весялоўскі, унурыўшы галаву, пайшоў.

— Дык што, будзем братацца? — звярнуўся да салдат Пралыгін.

— Будзем,— адказаў за ўсіх Вяршынскі.

— Усе згодны? Майце на ўвазе, што небяспека вялікая, ротны пагражаў адкрыць агонь.

— Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць,— спакойна заўважыў Крыўдзін.— Калі толькі...

— То адкруцім галаву і сабакам выкінем,— падхапіў Вяршынскі.

— А што чутно ў Піцеры? — перавёў гаворку Крыўдзін.— Нешта гадаўё заварушылася... пасмялела...

— Трывожныя, браткі, з Піцера весткі.— Пралыгін спахмурнеў.— Нядаўна вуліцы шчодра былі паліты крывёю...

Да іх ішоў цывільны чалавек у суправаджэнні салдата. Усе павярнулі галовы ў той бок, насцярожана паглядаючы на незнаёмага.

— Добры дзень, таварышы! — павітаўся той.— Я з Петраграда, Краеўскі!..

Вакол Краеўскага сабралася амаль уся рота. А салдаты ішлі і ішлі. Падсаджваліся, з цікаўнасцю разглядаючы пасланца Петраграда.

— Што новага ў сталіцы? — Пралыгіну не цярпелася.

— Нічога добрага, хаос! — адказаў Краеўскі і пацікавіўся: — А вы хто?

— Пралыгін.

— А-а-а, мне пра вас расказваў карэспандэнт «Праўды» Сяргей Галавін,— працягнуў руку Краеўскі.

Салдаты запрасілі яго сесці.

— Ну, як вам тут жывецца? — пацікавіўся Краеўскі, прымасціўшыся каля Крыўдзіна.

— Эт, жыццё салдацкае гроша ломанага не варта. Колькі нашых склалі галовы ні за што? А ім усё мала, зноў гоняць на бойню. Як на гэта глядзяць петраградцы?

— Па-рознаму. На тых, хто выступаў супраць вайны, пайшлі ў паход.

— Няўжо сапраўды ў Петраградзе разгромлены камітэт партыі, газета «Правда», ідзе раззбраенне рэвалюцыйных палкоў і рабочых? — устрывожыўся Пралыгін.

— На жаль, гэта так,— адказаў Краеўскі.— А адкуль вам вядома?

— Фрунзе ў нас быў... у армейскім камітэце...

— А-а-а, Міхаіл Васільевіч ведае...

— А як Ленін? — аж прыўзняўся Вяршынскі.

Усе насцеражыліся.

— У падполлі.

— Жывы і здаровы? — прыспешваў Крыўдзін.

— Часовы ўрад хацеў арыштаваць Уладзіміра Ільіча, але не ўдалося...

Салдаты ўздыхнулі з палёгкай.

— То раскажыце, як усё было,— папрасіў Вяршынскі.

— Дзеля гэтага ЦК і накіраваў мяне на фронт.— Краеўскі на хвіліну прымоўк.— Весткі аб наступленні на Паўднёва-Заходнім фронце, а потым аб правале наступлення ўскалыхнулі Петраград. Рабочыя і салдаты абурыліся. У Выбаргскім раёне стыхійна пачаліся хваляванні, яны перараслі ў грандыёзную агульнагарадскую ўзброеную дэманстрацыю. Рабочыя і салдаты патрабавалі перадачы ўлады Саветам. Партыя бальшавікоў была супраць узброенага выступлення, бо лічыла, што масы не гатовы яшчэ падтрымаць паўстанне і контррэвалюцыя зможа расправіцца з лепшымі барацьбітамі. Аднак, калі высветлілася, што народ утрымаць нельга, партыя вырашыла прыняць удзел у дэманстрацыі, надаўшы ёй мірны і арганізаваны характар. Гэта ўдалося зрабіць. Сотні тысяч людзей пайшлі пад лозунгамі, якія заклікалі перадаць уладу Саветам, спыніць імперыялістычную вайну і заключыць мір.

Нягледзячы на гэта контррэвалюцыя кінула юнкерскія і афіцэрскія атрады, выкліканыя з фронту найбольш рэакцыйна настроеныя вайсковыя часці. На вуліцах Петраграда пралілася кроў.

Былі арыштаваны некаторыя дзеячы нашай партыі, аддадзены загад і аб арышце Леніна. Разгромлены камітэты, памяшканне «Праўды». Юнкеры забілі на вуліцы рабочага Воінава толькі за тое, што той прадаваў «Листок «Правды».

Так скончылася двайная ўлада. Гаспадаром становішча стаў Часовы ўрад. Бальшавікі перайшлі ў падполле. Неабходна рыхтавацца да паўстання, каб скінуць буржуазію і ўстанавіць Савецкую ўладу. Вялікая роля ў гэтым і належыць франтавікам. Але і на фронце ў некаторых часцях ужо арыштоўваюць перадавых людзей.

Краеўскі паглядзеў на салдата, які яго суправаджаў, і яны абодва ўсталі.

— Куды вы цяпер пойдзеце? — спытаўся Пралыгін.

— У суседні полк.

— Будзьце асцярожнымі.

— Ведаю, мне ў армейскім камітэце расказвалі, хто чым дыхае.

Краеўскі развітаўся і пайшоў. Неўзабаве салдат, які наглядаў за праціўнікам, паведаміў:

— Немец прапануе братанне!

— Паказвай, што мы згодны! — загадаў Вяршынскі.

— Добра, браткі, робіце! — узрадаваўся Пралыгін.— І мне з вамі пайсці, ці што?

— А мо лепш вам прайсціся да суседзяў, пабыць побач з прадстаўніком Петраграда?

— Правільна... Да пабачэння! Націскайце, браткі, на мір! — І Пралыгін падаўся з акопаў.

— Ой, што робіцца! — усклікнуў назіральнік.— Колькі немцаў высыпала!

— Падымайцеся дружней! — скамандаваў Вяршынскі.

— Не забудзьце ўзяць хлеб! — дадаў Крыўдзін.

Усе вылезлі з акопаў. Пачуліся словы: «Хочам жыць у міры, у згодзе з усімі народамі», «Эс лебэ дэр фрыдэн ін дэр ганцэн вельт!» *. Сустрэўшыся на нейтральнай паласе, сал-

* Няхай жыве мір ва ўсім свеце!

даты паціскалі адзін аднаму рукі, неяк ухітраліся размаўляць, мянялі хлеб на спірт, брытвы і розныя забаўкі.

Нечакана ў акопах з'явіўся прапаршчык Весялоўскі. Убачыўшы братанне, камандзір роты са злосцю падбег да кулямёта, даў доўгую чаргу. Некалькі рускіх і нямецкіх салдат упалі, сутаргава абнімаючы зямлю, астатнія рассыпаліся. Крыўдзін першы дабег да свайго акопа і, убачыўшы ля кулямёта афіцэра, стрэліў у яго. Весялоўскі бездапаможна апусціўся на зямлю.

Тым часам з нямецкага боку ўзнялася такая страляніна, што нельга было падняць галавы. Біла артылерыя, слупамі ўзлятала зямля. Стралялі з кулямётаў і вінтовак. Здавалася, агонь змяце ўсё жывое. Але, калі страляніна сціхла, з укрыццяў пачалі выпаўзаць людзі.

З палка прыйшоў афіцэр і некалькі салдат, яны арыштавалі Вяршынскага і Крыўдзіна. Шукалі Пралыгіна, але ні сярод жывых, ні сярод забітых і параненых не знайшлі. Доўга дапытвалі пра камітэтчыка, толькі ніхто не сказаў, куды ён падаўся.

* * *

Камандуючы Заходнім фронтам генерал ад інфантэрыі Балуеў увайшоў у свой кабінет. За ім дробненька тупаў Жданаў — камісар Часовага ўрада на Заходнім фронце. Усхваляваныя, яны выйшлі з пасяджэння выканкома, на якім Мяснікоў выкрыў здрадніцкую палітыку Часовага ўрада, выявіў прычыны паражэння на фронце.

— Чорт ведае што такое! Каб выйграць вайну, патрэбна цвёрдая рука,— лютаваў Балуеў.— І куды глядзіць Стаўка? — Балуеў сціснуў кулак: — Калі б усё залежала ад мяне, я аддаў бы загад: у выпадку братання на фронце — адкрываць артылерыйскі агонь.— Ён стукнуў кулаком па стале.— А калі праціўнік пранікне ў баявыя парадкі нашых войск для братання — у палон не браць, а канчаць тут жа,

на месцы. І трупы выстаўляць перад драцянымі загароджамі: няхай бачаць, няхай падумаюць, ці варта братацца!

Вочы Балуева наліліся крывёю, на чыста паголеных шчоках выступілі барвовыя плямы.

— Ну, а нашых салдат за такія спробы — аддаваць ваенна-палявому суду, вось як!

— А чаму б вам, генерал,— заўважыў Жданаў,— не ўвесці гэтыя меры на нашым фронце?

Балуеў горка ўсміхнуўся.

— Калі кожны камандуючы пачне ўводзіць свае парадкі, ведаеце што атрымаецца? Бедлам!

У кабінет, усланы дывановымі дарожкамі і ўстаўлены крэсламі з высокімі спінкамі, з адкрытага акна данёсся шматгалосы гоман.

Камандуючы і камісар падышлі да акна і прыслухаліся.

— Дык ты, панок, за вайну да перамогі?.. Цікава!.. І мы гэтак жа кумекаем...— даляцеў да іх іранічны голас.

— Вось і добра,— узрадаваўся нехта. Балуеў і Жданаў зірнулі ў акно і ўбачылі чалавека, акружанага салдатамі.— Радзіма вас не забудзе,— замілавана і ўзнёсла лапатаў той.

— А ну, хадзем! — нечакана рвануў яго за руку салдат.

— Куды? Чаго? — здзіўлена спытаў цывільны, сумеўшыся.

— А ваяваць хто ж будзе? Мы, ці што? Калі да пераможнага канца, дык і табе трэба! Хадзем, хадзем!

— Дазвольце, панове! Грамадзяне, таварышы, дык я ж не прызыўны! Я працую на абарону!

Яго ніхто не слухаў.

— Колькі год? Трыццаць адзін? Прызыўны! Годны! Давай яго, братва, у казарму! Заўтра возьмем з сабою на фронт,— чуліся насмешлівыя крыкі.

Балуеў зачыніў акно.

— Чулі?

— На жаль, чуў,— адказаў Жданаў і адвёў памутнелыя вочы ад гнеўнага позірку Балуева.

— А які вывад вы зрабілі? — уедліва спытаў Балуеў і, не чакаючы адказу, дадаў: — Па-мойму, не эсэры і меншавікі, а бальшавікі вядуць за сабою салдат. Так, бальшавікі.

— А хто вінаваты? Вашы папярэднікі. Перш-наперш генерал Эверт, а потым Гурко. Яны заяўлялі, што салдаты ў палітыку не ўмешваюцца. Тады Фрунзе, а цяпер Мяснікоў разгарнулі работу ў тыле і на фронце. Бальшавікі карыстаюцца нашай пасіўнасцю. І вашай таксама, генерал.

— Што ж, не пярэчу. Але скажыце, чаму вы самі не выступілі супраць Мяснікова, а выпусцілі замест сябе гэтага балбатуна меншавіка штабс-капітана Калатухіна? — Балуеў зноў пачаў злавацца.— Дзе ўжо гэтаму пустазвону цягацца з Мяснікоўым! У таго слова — як куля.

— Што я чую, генерал! — Жданаў здзіўлена паглядзеў на Балуева.

— Не хвалюйцеся, я не бальшавік, а манархіст.— Балуеў падышоў да стала з масіўным пісьмовым прыборам і бронзавым уздыбленым рысаком, грузна сеў у крэсла.— З эсэрамі і меншавікамі я сяк-так магу паладзіць, а з бальшавікамі — ніяк! Я ўсіх бальшавікоў саслаў бы ў Сібір, а бальшавіцкую партыю абвясціў бы па-за законам,— генерал скрывіўся.— І на чорта мы трымаем тых арыштаваных салдат? Мінская турма і ўсе гаўптвахты, нават казармы, Дамініканскі касцёл і жаночая гімназія перапоўнены палітычнымі. Кармі іх хлебам!.. А яны ж — нашы працаўнікі...

— Праўду кажаце. Прыйдзецца прыняць захады...

— Пакуль вы збіраецеся, яны за горла схопяць. Фрунзе і Мяснікоў нават у турму прабраліся: іх людзі праводзяць агітацыю сярод арыштаваных салдат. Яны і там настройваюць людзей супраць нас.

Балуеў памаўчаў.

— А як справы на фронце? — пацікавіўся ён.

— Фронт канчаткова разлажылі бальшавікі.— Жданаў сеў.— Каб навесці там парадак — патрэбна цвёрдая рука.

— Абарваўся ланцуг у нашых радах, і выпала моцнае зярно,— шматзначна сказаў Балуеў.— Няма сярод нас Карнілава...

— Па-вашаму, Керанскі не можа ўзначаліць барацьбу супраць бальшавікоў?

— Перакананы ў гэтым.

— А па-мойму, калі Аляксандру Фёдаравічу даць шырокія паўнамоцтвы, ён выратуе Расію...

— Не веру!

— Аднак! — Жданаў устаў і захадзіў па пакоі, потым спыніўся і запытаў: — Што ж тады рабіць? — Ён глянуў на стол.— Сядзець і маляваць коней?! Дарэчы, у князя Радзівіла стайня ўжо апусцела. Тое будзе і з вашай...

— Гэтага нельга дапусціць!

Яны селі на канапе.

— Я даведаўся, што бальшавікі рыхтуюць корпус, які можна будзе выкарыстаць, каб захапіць уладу.

— Няўжо? — узняўся Балуеў.— Яны рыхтуюць паўстанне?

— Ходзяць такія чуткі. Ленін лічыць, што наспявае трэцяя рэвалюцыя.

— Як гэта?

— Надыходзіць час скінуць Часовы ўрад...

— Ого! — не даў дагаварыць Балуеў.— Што тады будзе? Што будзе?

— Трэба акружыць казакамі Мінск, усюды паралізаваць дзейнасць бальшавікоў.

— З фронту я не магу ўзяць казакаў,— запярэчыў Балуеў.— Паралізаваць дзейнасць бальшавікоў — гэта ваша, франтавога і армейскага камітэтаў справа.

— Армейскія камітэты ў большасці пераабраны, туды ўвайшлі бальшавікі.

— Агаляць фронт я не маю права,— не згаджаўся Балуеў.

— Цяпер усё вырашаецца не на фронце,— наступаў Жданаў.— У Петраградзе, Маскве, Мінску рыхтуецца новая рэвалюцыя.

— У Мінску?! — засмяяўся Балуеў.

— Так, у Мінску. На Заходнім фронце — адна з мацнейшых бальшавіцкіх арганізацый. Мінчане выступаюць ініцыятарамі, хочуць, каб бальшавікі ўзялі ўладу...

— Перабольшваеце. Учора ў мяне былі беларускія дзеячы на чале з памешчыкам Скірмунтам, яны падтрымліваюць Часовы ўрад, мараць аб нацыянальнай самастойнасці.

— Якія яны дзеячы?! Гарлапаны. І што вы ім сказалі?

— Расія адзіная і непадзельная.

— Дык як будзе з войскам? Мінск трэба акружыць казакамі.

— Падумаю. Вы спяшаецеся?

— Трэба праінфарміраваць франтавы камітэт аб настроях акопнікаў. Работа ў нас сярод салдат запушчана.

— Усё ж такі прыйдзецца, мусіць, узяць некалькі часцей з фронту.

Жданаў выйшаў, а Балуеў паклікаў начальніка штаба, рашыў разам абмеркаваць, якія часці адклікаць з пазіцый.

* * *

Карэспандэнт «Праўды» Сяргей Галавін спаткаўся з Ганнай Мікалаеўнай Лосевай у Мінскім Савеце, калі яна выйшла с пасяджэння прэзідыума. Пра ўрача-псіхіятра Лосеву, члена Мінскага камітэта РСДРП(б), ён шмат чуў, але ні разу з ёй не сустракаўся. У апошні час яна асабліва праявіла сябе на прапагандысцкай рабоце сярод арыштаваных салдат мінскай турмы. Лосева — непрыгожая. Яе гладкія валасы каротка падстрыжаны. Тонкія вусны моцна сціснуты. Але калі Сяргей паглядзеў у яе вочы, нейкія глыбокія і праніклівыя, шчырыя і поўныя цеплыні, дык яму нават здалося, што яна прыгожая.

Лосева была вялікай душы чалавек, палымяная бальшавічка.

— Ганна Мікалаеўна! — звярнуўся да яе Сяргей.— Вы можаце прысвяціць мне некалькі хвілін? Я Галавін.

— А-а-а,— жанчына ўсміхнулася, ад чаго вочы яе засвяціліся, і падала руку.— Вельмі рада пазнаёміцца.

Сяргей густа пачырванеў.

— Я хацеў пагаварыць з вамі адносна работы ў мінскай турме.

— На жаль, цяпер не магу, якраз іду туды. Давайце лепш сходзім разам.

І яны пайшлі.

— Каго цяпер там трымаюць?

— Найбольш салдат з розных часцей фронту. А ў апошнія дні пачалі трапляць байцы з польскай дывізіі генерала Доўбар-Мусніцкага. Гэта дывізія сфарміравана нядаўна, па загаду Карнілава. Па ўсім відаць, што на яе Стаўка ўсклала задачу душыцеляў рэвалюцыі.

— Хто ў яе ўваходзіць, толькі палякі?

— Ёсць і беларусы-католікі, якіх паводле веравызнання лічаць за палякаў. Расказваюць, што Доўбар-Мусніцкі вельмі жорсткі, ад яго нельга чакаць нічога добрага. А цяпер ён стварае корпус.

Ісці было недалёка, і яны неўзабаве апынуліся каля турэмнай брамы. Ганну Мікалаеўну адразу туды прапусцілі, а праз некаторы час яна правяла і Сяргея.

Апынуўшыся першы раз у турме, Сяргей з цікавасцю разглядаў вільготныя сутарэнні. Нізкае скляпенне, пах цвілі прыгняталі хлопца. У калідоры сустракаліся наглядчыкі з вялізнымі ключамі, пабразгвалі імі, парушаючы цішыню.

У першай камеры, заўважыўшы праз «вочка» Ганну Мікалаеўну, ажывіліся вязні. Пачулася перастукванне. З камеры ў камеру перадавалі, што прыйшла Лосева.

— Бачыце, як вас сустракаюць,— падышла да яе наглядчыца.

— Не мяне, а нашу партыю,— папраўіла Лосева.

— А сёння вы пагаворыце з жанчынамі?

— Мусіць, не ўдасца.

— Паскарджуся на вас камітэту.

— Камітэт даручыў вам праводзіць сярод вязняў работу?

— Мяне яны прымаюць за звычайную наглядчыцу.

У камерах гуло. Вязні былі рады з'яўленню людзей з волі.

— Што за шум? — выйшаўшы з канцылярыі, спытаўся начальнік турмы.

— Прыйшла доктарка, кожнаму хочацца даведацца пра сваё здароўе,— растлумачыла наглядчыца.— Можна будзе правесці пагалоўны агляд?

— Не, толькі ў адной-дзвюх камерах,— згадзіўся начальнік турмы.— Але без гвалту... А вам, што трэба, малады чалавек? — скасавурыўся ён на Сяргея.

— Лабарант,— адказала за яго Лосева.

Начальнік турмы махнуў рукою і вярнуўся ў канцылярыю.

— Што з ім? — здзівілася Ганна Мікалаеўна.— Чагосьці нервуецца.

— Учора чакалі генерала Балуева і камісара Жданава. Але тыя не прыехалі. Дык, можа, сёння...

— Вось як! Тады нельга марудзіць. Трэба неадкладна пабачыць Аляксандра Салаўя.

— Яго арыштавалі? — здзівіўся Сяргей.

— Так, па загаду Духоніна, за ўдзел у захопе панскай зямлі. Як толькі ён з'явіўся са сваёй Рудабелкі ў часць, адразу схапілі.

Яны спыніліся каля трынаццатай камеры.

— Аляксандр Раманавіч і тут не сядзіць склаўшы рукі. Чуеце яго голас? — Лосева прыслухалася.

Падышоў наглядчык і адамкнуў камеру. Яна была біткам набіта людзьмі.

— Чым займаецеся? — заглянуўшы ў камеру, пацікавілася Лосева.

— Правіламі вядзення вулічнага бою,— адказаў Салавей.— Праводзім заняткі з камандзірамі аддзяленняў і ўзводаў будучага рэвалюцыйнага палка.— Ён падышоў да яе.— Можаце далажыць Мінскаму камітэту РСДРП(б), што мы гатовы да выступлення. Хутка яно будзе?

— Нядоўга засталося чакаць.

— Можна перадаць па камерах? — спытаўся адзін з салдат.

— Перадайце!

Паплечнікі Салаўя заспявалі «Інтэрнацыянал».

Іх падтрымала суседняя камера, а потым уся турма. Хоць і ціха, але велічна гучаў гімн. Яму цесна было ў каземаце, ён вырываўся на волю. Замітусіліся наглядчыкі, не ведаючы, што рабіць. У трынаццатую камеру прыбег начальнік турмы. Твар яго збялеў, вочы пад пенснэ разгублена бегалі. Ён крыкнуў і сам, відаць, спалохаўся:

— Аляксандр Салавей! Гэта ваша работа? Пасаджу ў карцэр!

Камера грозна загула. Начальнік турмы падаўся назад.

— А што вы мяне падводзіце? Я з вамі як з людзьмі, а вы вунь што! Прашу без эксцэсаў... Мяне здымуць, паставяць другога, вам горш будзе... Здаецца, усё, што магу, для іх раблю, а яны... спяваць... Хоць бы не паўтарылася гэта пры начальстве...

— Добра,— абяцаў Салавей.— Пры часовых не будзем спяваць.

— І вам, грамадзянка, час адсюль ісці,— звярнуўся начальнік турмы да Лосевай.— У мяне хворых няма.

— Мне яшчэ неабходна паглядзець у шаснаццатай камеры,— сказала настойліва Ганна Мікалаеўна.

— Заходзьце куды вам трэба, ды толькі не баўцеся,—

прасіў начальнік турмы.— Зразумейце — у мяне сям'я, дзеці малыя...

— Толькі цяпер цябе пазнаў,— кінуўся да Сяргея Салавей.— Таварыш Галавін! Ну як мае матэрыялы?

— Паслаў у Петраград. Надрукуюць — перадам газету.

— Аднак нам трэба ісці,— прапанавала Лосева.

У шаснаццатай камеры вяліся палітычныя заняткі. Вяршынскі, убачыўшы Галавіна, ускрыкнуў:

— Сярожа! І ты да нас? Цябе таксама схапілі? От недавяркі!..

— Мёртвы хапае жывога,— загаварыў Крыўдзін.

— Не, я зайшоў паглядзець, як вы тут жывяце.

— Нішто сабе. Праходзім універсітэт...

— Многіх у партыю прынялі,— пахваліўся Крыўдзін.

Лосеву зноў акружылі, выпытваючы, што новага прынесла ў камеру.

— Праўда, што паўстанне блізка? — спытаўся адзін салдат.

— Праўда. На волі ўсе гэтым жывуць. Але калі браць уладу, партыя скажа.

— Хутчэй бы!

— Нам трэба быць напагатове, мець свае ўзброеныя сілы, дысцыплінаваныя, адданыя рэвалюцыі, гатовыя на подзвіг,—горача пераконвала Лосева.— А галоўнае — неабходна рыхтаваць народ да паўстання. Ёсць думка накіроўваць нашых агітатараў і прапагандыстаў на фронт. Хто згодны памагчы Мінскаму камітэту бальшавікоў у гэтай рабоце?

— Я,— падаў голас Вяршынскі.

— Я таксама,— далучыўся Крыўдзін.

— Мяне запішыце.

— І я паеду!

— А як жа мы адсюль выберамся?

— Пра гэта паклапоцімся мы,— адказала Лосева і заспяшалася на выхад.— Бывайце, таварышы!

* * *

Апаўдні 25 кастрычніка (7 лістапада) у Мінску стала вядома: у Петраградзе перамагло ўзброенае паўстанне. Часовы ўрад арыштаваны. Мінскі камітэт РСДРП(б) на чале з Аляксандрам Фёдаравічам Мясніковым паклапаціўся адразу ж вызваліць палітычных вязняў не толькі з турмы, але і з другіх месцаў зняволення, каб з іх дапамогай заняць важнейшыя ўрадавыя і грамадскія ўстановы, пошту, тэлеграф, чыгунку, штаб фронту... На бок рэвалюцыі перайшлі салдаты 37-га і 289-га запасных палкоў. Сярод казакаў, якімі быў акружаны Мінск, бальшавікі таксама правялі належную работу: прадстаўнікі Другой Каўказскай дывізіі заявілі, што яны пераходзяць у распараджэнне Саветаў.

Перад памяшканнем Мінскага Савета выстрайваліся вызваленыя палітычныя вязні. Яшчэ ў турме яны былі разбіты на роты, узводы і аддзяленні. Камандаваў прапаршчык Рамнёў, малады і стройны, рухавы чалавек з чорнымі вусікамі. На грузавой машыне пад'ехаў райкомавец Дружынін, прывёз узбраенне.

— Хто будзе камандзірам? — спытаў ён.

— Я,— падбег Рамнёў.

— Атрымлівайце вінтоўкі.

— А кулямёты?

— Зараз прывязуць!

— Камандзіры ўзводаў, да мяне! — загадаў Рамнёў.

Салдаты паўзводна разбіралі вінтоўкі і патроны. Пад'ехалі машыны з кулямётамі. Узводныя хацелі падзяліць кулямёты. Падышоў Рамнёў. Ён прапанаваў стварыць палкавую кулямётную каманду. Вяршынскі і Крыўдзін разглядалі атрыманую зброю.

— Не выпушчу з рук вінтоўкі, пакуль не ўмацуецца Савецкая ўлада,— заявіў Вяршынскі.— Інакш працоўнаму чалавеку не будзе жыцця...

— І я таксама.— Крыўдзін сціснуў вінтоўку.— Няхай ведаюць беларусаў... Мы самі з вусамі...

Машыны падыходзілі адна за другой. Узбраенне атрымалі не толькі палітычныя вязні, якіх было каля дзвюх тысяч, але і рабочыя, галоўным чынам чыгуначнікі.

З будынка Савета выйшаў Мяснікоў. Акружаны салдатамі, узняўся на скрынку з-пад снарадаў. Павіншаваў прысутных з перамогай сацыялістычнай рэвалюцыі ў Петраградзе, прачытаў першы загад выканкома Мінскага Савета, у якім гаварылася, што ў Мінску ўлада перайшла ў рукі Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, і абвясціў аб стварэнні Першага рэвалюцыйнага палка імя Мінскага Савета.

— Ад гэтага часу і навекі ў Расіі ўстанаўліваецца ўлада рабочых і сялян,— палымяна гаварыў Мяснікоў.— Рэвалюцыйная Расія становіцца на чале прагрэсу ўсяго свету.

У гэты ж дзень была адхілена ад кіравання горадам Мінская гарадская дума. На пошту, тэлеграф, вакзалы, у штаб Заходняга фронту і іншыя дзяржаўныя ўстановы Мінскі Савет паслаў сваіх камісараў і варту. Нават галоўнакамандуючы генерал Балуеў і камісар Часовага ўрада Заходняга фронту Жданаў, хоць і скрыгаталі зубамі ад злосці, вымушаны былі прыняць прызначаных Саветам камісараў. Так у Мінску, у той жа дзень, як і ў Петраградзе, была ўстаноўлена Савецкая ўлада, і ў гэтым галоўную ролю адыграў Першы рэвалюцыйны полк імя Мінскага Савета.

*1963 г.*



# ПТУШЦЫ — ВОЛЯ, ЧАЛАВЕКУ — МІР

Падыходзячы да вёскі Крынкі, Лучына з Галавіным убачылі Лепяшынскага каля млына на сенажаці. Панцеляймон Мікалаевіч наглядаў за бусламі, якія збіраліся ў вырай. Недалёка ад чарады стаяў з апушчанай дзюбай меншы за іншых, нейкі нягеглы бусел.

— Таго яны з сабою не возьмуць,— заўважыў Лепяшынскі, звяртаючыся да чалавека з рудой барадою.

— Чаму? — здзівіўся рудабароды, гэта быў Сцяпура, падпольшчык пры кайзераўцах. У яго ў Оршы была яўка, адтуль ён накіроўваў людзей у розныя канцы Беларусі.

— Не даляціць да месца. Значыць, яго пакінуць. Вось пабачыце!

Неўзабаве павадыр узмахнуў крыламі. Як па сігналу, узнялася чарада буслаў. Залапатаў адным крылом і нягеглы бусел, але не змог узляцець. Буслы зрабілі круг, нібы развітваючыся з роднымі мясцінамі, і падаліся на поўдзень. Устрывожаны адзінокі бусел яшчэ некалькі разоў паспрабаваў узляцець, але так і не змог. Ён доўга глядзеў у той бок, куды паляцела чарада.

— Прападзе, бядак! — шкадаваў Лепяшынскі.

— Не прападзе! — запэўніў млынар.— Людзі не дадуць загінуць. Сёлета буслы памыліліся і прыляцелі рана, прыціснуў мароз, дык ім у гумне далі прытулак. Сяляне па чарзе кармілі. Любіць наш народ гэту птушку! Ён ручны. Маленькімываліўся з гнязда і пакалечыў крыльца. Дзеці выхадзілі.

— Вялікае і шчырае сэрца ў працоўнага чалавека,— захапляўся Лепяшынскі.— Птушцы — воля, чалавеку — мір.

Падышлі Лучына і Сяргей. Лучына адрэкамендаваў хлапца:

— Панцеляймон Мікалаевіч! Гэта Сяргей Галавін, карэспандэнт газеты «Правда». Ён вяртаецца з тылу кайзераўцаў. Ой, што там робіцца! Уся Беларусь узнялася супраць ворага. Пераступіў праціўнік нашы парогі, ды паламаў свае ногі.

— Добры дзень, калега! — падаў руку Лепяшынскі. Ён звярнуўся да Сцяпуры: — Пры тваёй дапамозе ішоў туды?

— Так,— сцвердзіў Сцяпура.

— А як там наладжана сувязь, падрыхтаваны яўкі? — гледзячы на Сяргея, правяраў Лепяшынскі.

— Вельмі добра,— паведаміў Сяргей.— Падабраны надзейныя людзі. Не было ні аднаго правалу. Усё прадугледжана да дробязей. І немцы, і нацыяналісты не могуць пранюхаць, так тонка бальшавікамі вядзецца канспірацыя.

— Лепшай вам пахвалы не трэба,— пaглядзеўшы на Сцяпуру, адобрыў Лепяшынскі.

— Уласна кажучы, пахвала не мне, а вам, Пантеляймон Мікалаевіч,— задаволены, гаварыў Сцяпура.— Я малады канспіратар.

— І маё сёе-тое ёсць,— пагладзіў бародку Лепяшынскі.— Наколькі мне стала вядома ад Мяснікова, вучань пераўзышоў настаўніка ў канспірацыі. Вы шмат новага прыдумалі. Гэта добра, так і павінна быць.

Сцяпура ў душы радаваўся. Заслужыць пахвалу ад Лепяшынскага, строгага і патрабавальнага, вышэйшая для яго ўзнагарода.

— А як там нацыяналісты? — павярнуўся да Сяргея Лепяшынскі.

— Шалеюць,— адказаў Сяргей.

— Шалеюць? — перапытаў Лепяшынскі.

— Яшчэ як! — сказаў Сяргей.— Выслужваюцца перад немцамі.

— Пігмеі! Нацыяналістам не падлажыць тармазны башмак пад калясніцу часу,— ідучы, заўважыў Лепяшынскі.— Рэвалюцыя пераможа!

Яны ўвайшлі ў канцавую хату, у якой спыніўся Лепяшынскі. Маладога веку жанчына, у кужэльнай вышытай кашулі, стройная, глянула сінімі вачыма на чародку дзяцей, што таўкліся, як камары, і тыя выйшлі. За імі жанчына зачыніла дзверы. З двара пачуўся ласкавы голас:

— Дзеткі! Пойдзем на рэчку, я папалашчу бялізну, а вы пагуляеце на поплаве.

— Простая, непісьменная, але з розумам жанчына,— глядзеў у акно Лепяшынскі.— Гэта ж яна мяркуе, што будзе перашкаджаць нам. Хто скажа, каторыя яе дзеці?

Усе прыпалі да акна.

— Вунь тыя трое, галоўкі якіх падстрыжаны ў рады, як авечкі,— паказаў рукою Сяргей.

— А вы як лічыце? — Лепяшынскі звярнуўся да Лучыны і Сцяпуры.

Яны паціснулі плячыма.

— Адзенне на іх хоць і ў латках, але чыстае,— працягваў Сяргей.— І маці, відаць, часта мые малых...

— Наглядальны, вельмі добра,— не даў дагаварыць Лепяшынскі. Ён перавёў гаворку.— Дык я прыехаў сюды толькі на некалькі дзён.— Лепяшынскі задумаўся, у яго на лбе акрэсліліся дзве глыбокія складкі.— Мне даручылі азнаёміцца, як у цябе, Сцяпура, ідуць справы на Аршаншчыне. Бараду сваю цяпер можаш пагаліць, у тыл праціўніка табе больш не давядзецца хадзіць. Лучына — твой памочнік.

— А я меркаваў, што вы зноў да нас? — нервова шчыпаў бараду Сцяпура.— Вы з Масквы прыехалі?

— Не. З роднай вёскі Літвінавічы, арганізоўваю там школу-камуну. Прынцып: спалучэнне навучання з карыснай працай,— зачасаўшы пяцярнёю валасы ўверх, тлумачыў Лепяшынскі.— Ільіч падтрымаў маю ініцыятыву. І сёе-тое прыхваткамі пішу... для сябе... Няма часу, адрываюць для іншай работы. Яшчэ прыйдзецца пабыць у Смаленску.

— Панцеляймон Мікалаевіч! — папрасіў Сяргей.— Мне казалі, што вы шмат разоў сустракаліся з Леніным, раскажыце нам... Вы ж яго малявалі.

— Ты маеш на ўвазе карыкатуру на меншавікоў «Як мышы ката хавалі»? — засмяяўся Лепяшынскі.

— Так. Цікава, як Ленін паставіўся да яе?

— Рагатаў і сказаў, каб я выдаў сваіх «мышэй» з дапамогаю літаграфіі. Калі-небудзь я напішу пра мае сустрэчы з Уладзімірам Ільічом на рубяжы двух вякоў. А зараз, хоць вельмі коратка і бессістэмна, раскажу пра асобныя рысы правадыра...

— Хоць бы і так,— не цярпелася Сяргею.

— Упершыню я ўбачыў Уладзіміра Ільіча ў канцы мінулага стагоддзя ў Мінусінску, куды мы з'ехаліся нібы для спаткання Новага года,— успамінаў Лепяшынскі.— Першае ўражанне — рухавы, жыццярадасны, абаяльны, чалавекалюб. Ён вельмі проста трымаўся з усімі, быў уважлівы. Мне тады кінулася ў вочы надзвычайная яго тэмпераментнасць, быстрыня, уменне бачыць тое, чаго мы не заўважалі, зрабіць адпаведныя вывады.

Уладзімір Ільіч любіў паляванне. Але тое, што ён часта не меў паляўнічага шчасця, яго не кранала. Падабалася яму ездзіць на каньках. А больш за ўсё ён любіў шахматы.

— І вам прыходзілася з ім гуляць у шахматы? — цікавіўся Сяргей.

— Так,— паведаміў Лепяшынскі.— Мяне лічылі добрым шахматыстам. Але ў першую ж сустрэчу я прайграў Леніну некалькі партый запар. Прыйшлося папрасіць фору з яго боку, слана ці каня. Неяк, будучы ў Піцеры, я прыгадаў былыя часы і прапанаваў яму як-небудзь згуляць у шахматы. Ільіч, голасна зарагатаўшы, сказаў: «Цяпер ужо не да шахмат. Гуляць больш, відаць, не прыйдзецца».

— Вядома, гэтулькі работы,— спачуваў Сяргей.

— Ленін умее працаваць,— працягваў Лепяшынскі.— Ён вельмі быстра чытае. У яго фенаменальная памяць.

І яшчэ мне хочацца сказаць аб адной важнай рысе Уладзіміра Ільіча, якую я прыкмеціў. Ён вельмі клапатлівы і па-сяброўску ставіцца да сваіх аднадумцаў, а да чужых па ідэалогіі людзей заўсёды стрыманы, а ў час барацьбы нават суровы.

Лепяшынскі ўстаў і захадзіў па пакоі.

— І ўсё? — нездаволена вымавіў Сяргей.— Вы маглі б расказаць шмат больш.

— Мог бы, але цяпер не да гэтага,— весела ўсміхнуўся Лепяшынскі.— На ўсё свой час. Мы ва ўсім і заўсёды па-

вінны браць прыклад з Ільіча. А зараз мне і Сцяпуру трэба заняцца падборам людзей для аднаўлення Савецкай улады на Аршаншчыне.

— Панцеляймон Мікалаевіч! — маліў Сяргей.— Як вы ні заняты, але я вам задам яшчэ адно пытанне. Што вы ведаеце пра «дзеянні» чэхаславацкіх часцей?

Хоць Лепяшынскаму і не было часу, але ён расказаў, што чэхаславацкі корпус, які налічваў каля пяцідзесяці тысяч чалавек, пры падтрымцы Францыі, Англіі, ЗША і актыўным удзеле меншавікоў і эсэраў у маі ўзняў мяцеж.

Выкарыстаўшы дазвол Савецкага ўрада выехаць у Заходнюю Еўропу праз Уладзівасток у якасці прыватных грамадзян, чэхаславацкія ваякі парушылі дамоўленасць і адмовіліся здаць зброю. Расцягнутыя па чыгунцы ад Пензы да Уладзівастока чэхаславацкія мяцежнікі разам з рускімі белагвардзейцамі захапілі Новanікалаеўск, Чэлябінск, Златауст, Екацярынбург, Сызрань, Петрапаўлаўск, Томск, Курган, Омск, Самару, Уладзівасток, Сімбірск, а потым Казань. Яны захапілі залаты запас рэспублікі і перадалі яго Калчаку. Пры садзеянні мяцежнікаў у Самары, Омску, на Урале і ў іншых месцах былі створаны белагвардзейска-эсэраўскія ўрады. К гэтаму часу Антанта высадзіла дэсант у Архангельску, і мяцежнікі з усіх сіл імкнуліся злучыцца з ім. Толькі дзякуючы вялікім намаганням усяе краіны чэхаславацкія мяцежнікі, рускія белагвардзейцы і дэсант Антанты фактычна разгромлены.

— Нялёгка было,— устаў Сяргей.— Дзякуй за расказ!

— Калі пабачымся ў Смаленску,— развітваючыся з Сяргеем, гаварыў Лепяшынскі,— тады яшчэ пагаворым. А калі заглянеш да мяне ў Літвінавічы, то будзе яшчэ лепш. Шмат што змагу расказаць.

— Пастараюся наведаць,— абяцаў Сяргей.

Лучына з Сяргеем выйшлі з хаты.

*1963 г.*

# НА СКРЫЖАВАННІ ДАРОГ



Быстры, серабрысты Нёман у затоцы нібы спыніўся ў сваім імклівым бегу, закружыўшы ў віры пажоўклае лісце. Зайшло сонца. У сіняй гладзі вады, як у люстэрку, адбіліся блакітным ззяннем месяц, залацістыя зоры, пуховыя воблакі, што, як статкі баранчыкаў, паволі плылі з поўначы на поўдзень.

На пагулянку выйшаў, відаць, сом. Ён раз-пораз усплёскваў ваду, парушаючы вячэрнюю цішыню.

На крутым беразе рэчкі раслі каржакаватыя дубы, раскінуўшы свае галіны, утвараючы своеасаблівыя шатры. Далей стройнымі радамі ўзвышаўся саджаны сасновы падлесак, пахла смалою. Дзесьці, нібы малое дзіця, заплакала сава: «Ку-га-а!», потым быццам засмяялася: «Хо-хо-хо-о!» Лес напоўніўся рэхам. З рэчкі павеяла прахалодай.

— До-о-бра-а!..— гаворыць сам сабе Міран Андрэевіч Корань, высокі і сутулы стары, з парэпанымі рукамі, у акулярах, з сівымі апушчанымі вусамі і шэрымі вачыма. Ён закінуў у рэчку вуду са званочкам, пасля ўзяў абвязаны белай анучкай збанок за ручку, ускінуў на плячо паліНялы рукзак і цяжкаю хадою падышоў да кастра.

Юшка са свежай рыбы ўжо кіпела, у носе казытаў прыемны пах. Корань зменшыў агонь, каб не выкіпаў навар, прысеў. Мы былі ў добрым настроі: як-ніяк, а на юшку рыбы налавілі, хацелася каля кастра пагаварыць, падумаць, памарыць. Яшчэ мне карцела пачуць ад старога пра першыя дні рэвалюцыі ў Петраградзе. Корань тады працаваў качагарам на Пуцілаўскім заводзе. Патрэсквала сухое голле, час ад часу ўзвіваліся языкі полымя, разразаючы цемень, навокал мігцелі цені.

— Ну і абмялеў Нёман, проста не пазнаць рэчкі,— загаварыў Корань.— Што ж, многа вады сплыло... Бывала, калі з бацькам плыты ганялі... Дзіва, гэтак лясы спляжыць!.. Быў я сёння на сваёй радзіме... Там, дзе раней шумела пушча, цяпер гола... хоць у бубен бі...

— А вы хіба з гэтых мясцін? — спытаў я.

— Родам я з вёскі Каласовічы, недалёка ад нас і пачынаецца славутая рэчка,— адказаў стары.— Дзе б я ні быў: ці ездзіў на паравозах і суднах, ці стаяў каля топак электрастанцый, я часта з замілаваннем успамінаў радзіму, сцежкі, дзе вучыўся хадзіць.

— Цікава,— аж прыўстаў я.— А мне адзін чалавек з вельмі сур'ёзным выглядам даводзіў: паколькі рабочы чалавек па сваёй прыродзе інтэрнацыяналіст, то што́ яму да радзімы...

— А па-мойму,— папраўляў агонь Корань,— толькі той чалавек, які па-сапраўднаму любіць радзіму, свой народ, сваю культуру, звычаі і мову, якой маці навучыла, можа быць сапраўдным інтэрнацыяналістам...

Мне ніколі не прыходзілася гаварыць з рабочым на гэтую тэму, а таму я пастараўся падтрымаць размову.

— Хто яго ведае чаму, але так здарылася,— пачаў я,— што на нашу краіну і на яе людзей некаторыя глядзелі зверху ўніз. Казалі, што наш народ забіты, не мае характару, чаго ад яго чакаць?..

— Н-да!..— пасуравеў Корань.— Давайце ўдакладнім: хто імкнуўся прынізіць беларусаў? Паны распаўсюджвалі аб іх думку, што гэта людзі цёмныя, што ім не ўласцівы высокія ідэалы. З лёгкай рукі нейкага пана, які напісаў пра беларуса, пэўна, з расказу такога ж самага пана, яго іначай і не ўяўлялі, як з каўтуном на галаве, ціхім і пакорлівым. Давайце разбяромся, ці гэта так.

Мяне і раней цікавіў Корань, з ім было аб чым пагаварыць, але сёння ён паўставаў у іншым святле. Не дарма кажуць: каб чалавека пазнаць, трэба з ім пуд солі з'есці. Не звяртаючы ўвагі на юшку, якая моцна кіпела, я слухаў старога. Але Корань не з такіх, каб дарэмна псаваць рыбу,— ён зняў з палкі закураны салдацкі кацялок з юшкай і паставіў збоку на вуголле.

— І трэба ж было беларусу пасяліцца на скрыжаванні дарог,— набіўшы люльку мультанам, задыміў Корань.— Колькі па іх праходзіла ўсялякіх заваёўнікаў, якія імкнуліся захапіць дабро, здабытае працаю нашых рук. Разам з рускімі і ўкраінцамі беларусы білі Мамая на Куліковым полі, Радзівіла пад Мінскам, Карла XII каля вёскі Лясная і пад Палтавай, Напалеона на Бярэзіне, войскі кайзера Віль-

гельма II і легіёны Пілсудскага, нарэшце, білі орды Гітлера. Незлічоныя курганы, дзе парахнеюць косці чужынцаў,— гэта нямыя сведкі шматлікіх бітваў, што тут адбываліся. На беларускай зямлі неаднойчы разыгрываліся крывавыя драмы, і, зразумела, нашаму брату нямала пападала. Не раз крывёю ўмываліся. Прайшоўшы праз такую школу выпрабаванняў, беларус загартаваўся, на векі вечныя парадніўся з братнімі народамі, стаў незалежным і больш за ўсё любіць радзіму і свабоду.— Корань падумаў.— Мінчане адны з першых у семнаццатым годзе патрабавалі рашучых дзеянняў, звяржэння ненавіснага Часовага ўрада. Значыць, разумелі што да чаго! Палешукі першыя ў васемнаццатым годзе паднялі паўстанне супраць кайзераўцаў. Гэта штонебудзь ды значыць!

— Плысці супраць плыні нялёгка,— уставіў я.— Колькі гаварылі і пісалі, што беларус ціхі, нядатны пастаяць за сябе. У некаторых гэтая думка ўсталявалася. Паспрабуй давядзі ім.

— А давесці трэба! — Корань пастукаў люлькай па абцасе юхтовага бота, выбіваючы попел.— Англічане кажуць: «Чыстае сумленне не баіцца абвінавачванняў». Беларус таму, што яго зневажалі, не стаў горшы. Бруднае да чыстага не прыстае. Праўда, беларусы, як і ўсе людзі на зямлі, не аднолькавыя. Трапляе часам і людскі шлак, але не яго я маю на ўвазе, калі гавару пра беларусаў.

Мне прыемна было пачуць ад рабочага такую думку аб сваіх людзях.

— Мірон Андрэевіч! — звярнуўся я да Кораня.— А дзе вы былі і што рабілі ў час вайны?

— Якой вайны? Я іх тры перажыў.

— Вайны з фашыстамі.

— А-а-а...— Стары падумаў.— Пра сябе як быццам і не зручна гаварыць, але раскажу.

У гэты час забрынкаў званочак, і Корань стрымгалоў кінуўся да рэчкі, адкуль у яго спрыт узяўся. Ён выхапіў

вудзільна, пацмокаў, паахкаў, зноў начапіў прынаду і закінуў вуду.

— Не дарма кажуць: паспяшыш — людзей насмяшыш,— вяртаючыся да кастра, шкадаваў ён.— І нешта добрае бралася... Няйначай, галавень... толькі луской бліснуў...

Корань прымайстраваўся каля шурпатага дуба і загаварыў:

— На другі дзень, калі фашысты прыйшлі ў Мінск, я кінуў работу на электрастанцыі і з сям'ёю падаўся на бацькаўшчыну, у Каласовічы. З блізкіх родных там нікога не асталося,— адны паўміралі, а другія разбрыліся па свеце. Бацькава хата даўно струхлела і нават вуглоў не было. Закватаравалі мы ў канцавой хаце, ва ўдавы Мальвіны Дзяругі, старой кабеты. Яна была ціхая, здавалася, вады не замуціць, толькі ўпалыя вочы неяк асабліва гарэлі. Я неяк застаў яе за работаю: яна выкройвала торбу з кужэльнага палатна. Адна ўжо была гатова. «Навошта вам, цётка Мальвіна, гэтыя торбы?» — спытаўся я. «Родненькі,— апаліла яна мяне сваімі праніклівымі вачыма,— не чакай дабра ад гэтага гадаўя. Чаго іх прынесла нячыстая сіла да нас? Каб парабаваць. То, можа, торбы спатрэбяцца — ці схаваць што, ці хадзіць з імі...» Праз некаторы час Мальвіна стала разведчыцай. Але я забягаю наперад.

— Хіба вы былі ў партызанах? — пацікавіўся я.

— Так,— сцвердзіў Корань.— Павінен вам сказаць, што не ў маёй натуры выхваляцца, але я падняў Каласовічы на барацьбу. Хоць каб не я зрабіў, другі б знайшоўся. Праўда, пакуль развярушыліся каласавічане, прайшоў пэўны час. Людзі нездаволены былі, што савецкае войска так паспешна адступіла. «Нейкі, мусіць, непарадак,— гаварылі.— Пэўна нехта даў зяўка». Але калі падняліся, горача было фашысту на нашай зямлі. Што праўда, то праўда,— ціхі наш народ, але да пары, пакуль разгневаецца, а потым толькі трымайся! Мне нашы людзі нагадваюць захаваную сілу спружыны, якая моцна б'е, вызваляючыся ад сціскання.

— А для чаго цётцы Мальвіне патрэбны былі торбы? — напомніў я.

— Начапіўшы торбы, прыкінуўшыся жабрачкай, з кіем у руках, уся ў чорным, цётка Мальвіна скалясіла некалькі раёнаў, збіраючы звесткі аб праціўніку,— паведаміў Корань.— Пра яе кемлівасць і адвагу шмат можна гаварыць, але я раскажу пра самае галоўнае. Аднойчы на наш атрад навaліліся вялікія сілы гітлераўцаў з танкамі. Прызнацца папраўдзе, моцна тады фашысты білі партызан — мы сыходзілі крывёю. У нас не было чым абараняцца ад танкаў. І вось у баі пад вёскай Забалоцце, дзе партызанам пагражала поўнае акружэнне, гэтая старая жанчына са звязкай гранат выйшла на паядынак з танкам. У танку разляцелася гусеніца, і страшыдла з крыжам задыміла. Сваёй геройскай смерцю Мальвіна Дзяруга натхніла партызан і фактычна выратавала атрад. І гэта зрабіла простая беларуская сялянка. Пазайздросціць можна!



— Згодзен,— сказаў я.

— А колькі было слаўных спраў у іншых нашых жанчын у час вайны, я ўжо не кажу пра мужчын — партызан і савецкіх воінаў,— усхвалявана гаварыў Корань.— Уся Беларусь узнялася на барацьбу. Нашаму народу даражэй за ўсё свабода. Дзеля яе нашы людзі не шкадавалі жыцця. Два мільёны дзвесце тысяч загінула нашых людзей на фронце і ў тыле праціўніка. Акрамя гэтага, гітлераўцы трыста восемдзесят тысяч юнакоў і дзяўчат вывезлі ў Германію. Фашыстам ва ўсім памагалі людзі з чорны-

мі душамі — беларускія буржуазныя нацыяналісты, будзь яны праклятыя! Але народ выстаяў.— Корань уздыхнуў.— Як ні цяжка нам узнімаць гарады і вёскі, але трэба паклапаціцца і пра герояў нашага народа, ушанаваць іх памяць.

Корань гаспадарлівым вокам паглядзеў на юшку, зняў кацялок з вуголля, і мы сталі рыхтавацца да вячэры. Разліўшы страву,— мне ў вялікую салдацкую конаўку, а сабе ў пагнутую алюмініевую міску — стары вывернуў рыбу ў агонь.

— Што вы зрабілі? — здзівіўся я.

— Н-да...— Корань ухмыльнуўся.— Сапраўдны рыбак ніколі не будзе есці вываранай рыбы. Які з яе наедак!

Стары моўчкі сёрбаў юшку. Я спрабаваў загаварыць пра самае галоўнае, дзеля чаго паехаў на рыбалку, пра Петраград, але ён зрабіў выгляд, што не чуе мяне. Тады я пачаў есці. Якая гэта была смачная юшка, можа ведаць толькі той, хто хоць раз у жыцці ласаваўся ёю каля кастра ўначы. Не ў крыўду хай будзе сказана: ні адна самая найлепшая гаспадыня на кухні такой ежы не згатуе! Павячэраўшы, Корань закурыў, потым памыў кацялок, набраў вады і паставіў на жар для чаю.

— Чалавек, груба кажучы, нагадвае мне крыху топку катла,— сказаў Корань.— Добра заправіш яе — пары будзеш мець удастатку...

— Мірон Андрэевіч! А як вы гледзіце на тое, што паравыя катлы, на якіх вы паўвека працуеце, у будучым страцяць сваё ранейшае значэнне? — запытаўся я.

— Як я на гэта гляджу? — Корань, відаць, не чакаў такога пытання, ён моцна пацягнуў з люлькі і закашляўся.— Катлы зрабілі сваю справу і ў музеі зоймуць належнае месца... Хоць, не адмовіліся ж мы ад каня, а чаму адмаўляцца ад катла... Ён яшчэ паслужыць чалавеку...

Мне казалі, што Корань, працуючы качагарам на Кіраўскім (былым Пуцілаўскім) заводзе, чуў прамову Леніна. Мяне гэта цікавіла, і я хацеў навесці яго на ўспаміны.

— Мірон Андрэевіч! Кажуць, што вы бачылі Леніна? — нарэшце спытаў я.— Які быў Ільіч?

— Помню — жвавы такі, але не мітуслівы,— заззяў Корань,— на ўсіх ласкава паглядае. Яго слова разумеў кожны, ды і як не разумець, калі яно гаварылася ў інтарэсах рабочага і ў абарону ўсяго народа. Вядома, яго разумелі лепш, чым іншых.

І Корань расказваў далей:

— Гэта было ў маі 1917 года. Эсэры хацелі правесці на Пуцілаўскім заводзе мітынг. Пры дапамозе салодкіх прамоў Чарнова яны думалі сагітаваць сорак тысяч пуцілаўцаў на падтрымку Часовага ўрада.

А Чарноў толькі на словах афарбаваны ў колер рэвалюцыі. Акрамя сувязі з масамі, якім ён гаварыў адно, Чарноў меў сувязь з буржуазіяй, якой гаварыў зусім другое.

Эсэры пачалі агітаваць рабочых: прыходзьце, моў, на сход. Прыедзе красамоўнейшы з прамоўцаў — Віктар Чарноў.

Даведаўшыся пра гэта, мы, беспартыйныя, пачалі прасіць бальшавікоў паведаміць у ЦК партыі, у палац Кшэсінскай.

Пуцілаўскі завод — найвялікшы арсенал, які вырабляў ваеннае ўзбраенне, вялікая маса рабочых, спаяных адзінай воляй і пралетарскімі інтарэсамі. Гэты калектыў заўсёды даваў рэвалюцыйны тон усяму рабочаму Піцеру, наводзіў страх на буржуяў стальной сваёй згуртаванаю грамадой. Калі рушыць саракатысячная маса Пуцілаўскага завода да Нарвскіх варот, якая сіла спыніць?

Мітынг пачаўся ў тры з паловай гадзіны дня на вялізнай плошчы заводскага двара. Гэта было вядомае месца пуцілаўскіх агульназаводскіх сходаў.

Трыбуна была на скорую руку збіта будаўнічым цэхам без усялякага ўбрання, без кветак, простая драўляная трыбуна. Калі прагуў гудок, рабочыя першай змены выйшлі з цэхаў, спяшаючыся, на хаду пакуллем выціраючы рукі.

Хутка запаўняецца плошча, рабочыя займаюць чыгуначныя платформы: хто стаіць, хто садзіцца на край; усаджваюцца і стаяць на балванках, узбіраюцца на прылягаючыя карпусы — сталепракатны і жалезапракатны, на старую галоўную кантору. Тут і барадатыя старыя, і сярэднія, і зялёна-маладыя — стракаты пуцілаўскі састаў. Тут і салдаты, якія тады працавалі на заводзе.

Прамоўца Чарноў красамоўна заклікае масу падтрымліваць Часовы ўрад, выплаўляць гарматы, рабіць снарады — шасцідзюймовыя, фугасныя і саракадвухсантыметровыя, і галоўным чынам — гарматы, гарматы і гарматы для прадаўжэння вайны.

Не цяжка было ў той час сабраць мітынг, але не кожны прамоўца мог уздзейнічаць на рабочага.

Слухаюць яго ўважліва, ветліва, хоць ведаюць, што ён гаворыць не тое, чаго хочуць усе.

Тады яшчэ меліся сярод некаторай часткі рабочых абарончыя настроі. Не такі просты быў пераход да ліпеньска-кастрычніцкай барацьбы.

Калі скончыў гаварыць Чарноў, раптам з'явіўся Ільіч. Неяк знянацку, з саракатысячнай масы падняўся ён на трыбуну.

І ў процівагу таму, што гаварыў Чарноў, Ленін давёў, што неабходна перш за ўсё заключыць мір без анексій і кантрыбуцый, спыніць кровапраліцце і голад, якія перажывае краіна.

Не ведаю, ці знойдуцца такія словы, каб перадаць тое вялікае захапленне, тую сілу, якой ён падпарадкаваў усіх, хто яго слухаў.

І калі Ільіч, гаворачы ад імя ўсіх і за ўсіх, выказаў свае думкі адносна вайны, пералом сярод пуцілаўцаў адбыўся на вачах, і чацвёртага мая пуцілаўцы на Неўскім, а потым першага ліпеня ля магілы ахвяр рэвалюцыі патрабавалі:

— Далоў дзесяць міністраў-капіталістаў, далоў Мілюкова і Гучкова дарданельскіх!

Рабочыя і цяпер помняць усё, што гаварыў Ільіч.

І кожны пуцілавец помніць гэтую грандыёзную карціну мітынгу рабочых, гатовых пайсці на любую барацьбу.

Гэты мітынг даў вельмі многа для гісторыі. Ён нацэліў пуцілаўскую масу, а пуцілаўская маса нацэліла ў рэвалюцыю. І гэты дзень я памятаю як самае цудоўнае ў маім жыцці, таму што ў гэты момант я ўбачыў велізарны пералом у розумах рабочых, зроблены сілай ленінскай праўды.

Корань змоўк. Я быў узрушаны ад простага, але перакананаўчага расказу старога, які сам усхваляваўся і мне перадаў гэта хваляванне.

— Скажыце, можа, вам яшчэ калі прыходзілася бачыць Леніна? — спытаўся я.

— Не, больш не давялося,— адказаў Корань.— А вось майму сябру, рускаму рабочаму, аднойчы пашчаслівіла гаварыць з Леніным вось так, як я з вамі гавару. Гэты сябар узяў замуж маю зямлячку. Яны жылі ў Ленінградзе, і ў час блакады ён памёр. Калі скончылася вайна, жонка вярнулася на радзіму. Я на днях быў у яе... Кабета перадала мне адну цікавую рэч.— Корань дастаў з кішэні пацёртую запісную кніжачку і ўрачыста прамовіў: — Мой сябар вось у гэтай кніжачцы — ён ніколі не разлучаўся з ёю да апошняга дыхання — расказвае пра Ільіча.

— Прачытайце, калі ласка,— узрадаваўся я.

Мы падклалі галля, ярка ўспыхнуў агонь. Корань разгарнуў запісную кніжачку (папера пажоўкла ўжо, сцерліся асобныя літары) і, запінаючыся, пачаў чытаць:

«Калі Часовы ўрад быў скінуты, Керанскі, які ўцёк, пераадзеўшыся ў жаночую вопратку, дваццаць сёмага кастрычніка павёў красноўскую банду на Петраград, і пад Лугу хлынулі з фронту верныя яго абаронцы, сябры Керанскага.

Ваенна-рэвалюцыйны камітэт у Смольным, спяшаючыся, арганізаваў баявыя атрады для адпору Керанскаму. Але пуцілаўцы, не чакаючы агульнай мабілізацыі Петраграда,

самі арганізавалі атрады Чырвонай гвардыі і проста з тэрыторыі завода паяздамі і пешa пайшлі на Заходні фронт, на Краснае Сяло, на Тайцы, на Лугу, супраць контррэвалюцыйнай арміі.

Некалькі дзён быў я з атрадам пад Лугай. Там, у лясах Лужскіх, прыйшлося нам сустрэцца з атрадамі Керанскага. Мы ім падсыпалі куль, і яны вымушаны былі ўцякаць, як пацукі. Але ў нас не хапала панарам для гармат і не было правадоў і апаратаў для палявой тэлефоннай сувязі, а яшчэ прадбачыліся сутычкі з гатчынскай кераншчынай.

Тады я быў тэрмінова камандзіраваны на Пуцілаўскі завод для неадкладнай дастаўкі на фронт панарам і тэлефоннага абсталявання.

Я вярнуўся ў Піцер, прыняў усе неабходныя меры і, пакуль таварышы рыхтавалі ўсё патрэбнае, дзяжурыў у заводскім камітэце.

Пад трыццатага кастрычніка, прыкладна ў гадзіну ночы, дзяжурыў я з адным таварышам у памяшканні былога вагоннага аддзела Пуцілаўскага завода. На двары было сыра і холадна. Прагаладаліся. На пліце ў маім салдацкім кацялку зварылі бульбу, якую нам прынёс заводскі агароднік. Згатавалі чаю і размаўлялі аб падзеях. Я расказваў пра тое, як мы біліся на фронце.

Раптам аднекуль у суседнім пакоі, які вядзе да выхада, з'яўляюцца дзве постаці. Адна — у скуранoй куртцы, у скураных штанах і ў рускіх ботах, з пісталетам на баку, а другая — сярэдняга росту, у асеннім паліто з паднятым каўняром і кепкай на галаве. Уваходзяць ціха і ідуць да нашага стала.

Мы ў сваю чаргу ідзём да іх насустрач.

Я зараз не помню, хто быў другі, але чалавек у паліто быў Ленін.

Мы трохі захваляваліся, чаму так позна Ільіч на заводзе. Спачатку меркавалі, што якое-небудзь асаблівае здарэнне яго сюды прывяло.

Яны прыйшлі да нас у пакой, і Ільіч пачаў распытваць. Ён задаваў мноства пытанняў, сярод якіх мне запомніліся:

— Які настрой на заводзе? Як рэагуюць рабочыя на захоп улады? Ці ідуць рабочыя на фронт?

Мы яму растлумачылі, што настрой на заводзе добры, вялікая колькасць рабочых паслана ўжо на фронт. Узбраення спачатку не хапала, але зараз дастаткова. Арганізуем дадатковыя атрады. З пульманаўскіх вагонаў для перавозкі вугалю са спецыяльнай сталі, якая ёсць на заводзе, зрабілі нядрэнны бранягоезд.

Тут я яшчэ дадаў:

— Бяру неабходныя для фронту панарамы і тэлефонны матэрыял для сувязі і вяртаюся заўтра з імі ў атрад.

Затым прапанавалі мы яму чаю і звараную бульбу:

— Можа быць, хочаце, Уладзімір Ільіч, есці?

Ён ахвотна згадзіўся:

— Не зашкодзіць...

Ён з'еў бульбы з хлебам і выпіў шклянку чаю. І я сказаў бы, што ён быў галодны. Бачыў я — ён еў з ахвотай. Відаць, заняты сур'ёзнымі справамі, не меў часу падумаць пра яду.

Калі мы запыталі яго аб прычыне прыезду, ён сказаў, што вяртаецца з фронту.

— Я заехаў па дарозе даведацца, якое становішча на Пуцілаўскім заводзе.

Мы сядзелі ўчатырох. Паўгадзіны Ільіч з намі гутарыў.

Гэтую гісторыю пра тое, як Ільіч еў бульбу ў Пуцілаўскім заўкоме, ведаюць усе пуцілаўцы.

Было ўжо вельмі позна, калі Ільіч, цёпла развітаўшыся з намі, паціснуўшы нам моцна рукі, пажадаў поспехаў і выказаў упэўненасць у тым, што мы пераможам.

Мы яго праводзілі да выхада з завода і выпусцілі праз брамку вагоннага аддзела.

Потым мы вярнуліся ў памяшканне заводскага камітэта, поўныя пачуцця асаблівай радасці ад гэтай сустрэчы».

Скончыўшы чытаць, Корань беражна паклаў запісную кніжачку ў кішэню пінжака. Мы былі пад уражаннем падзей даўно мінулых дзён, з якіх пачалася вясна чалавецтва.

— Мірон Андрэевіч! А што вы рабілі ў першыя дні рэвалюцыі? Дзе былі?

— У шмат якіх месцах быў,— успамінаў Корань.— Між іншым, разам з братвой з «Аўроры» ўдзельнічаў у разгроме контррэвалюцыйнай Стаўкі ў Магілёве... Салдаты пры мне на станцыі царскага генерала Духоніна, які спрабаваў наладзіць контррэвалюцыйны мяцеж супраць Савецкай улады, уходалі... З таго часу ў Беларусі асталяваўся... Пацягнула на радзіму...

— Чаму ж вы асталіся беспартыйным?

— У той час я меў адукацыю за народную школу, а калі падвучыўся, шмат у мяне на гэта пайшло часу, дык адчуў, што старэць пачынаю,— уздыхнуў Корань.— Але душою я заўсёды з партыяй... Яна вывела мяне, маіх дзяцей і мой народ у людзі... З нашай сям'і ў шаснаццаць чалавек толькі я са старой і трое ўнукаў беспартыйныя... Добра з партыяй і ў радасці і ў горы... Партыя, як маці, і патрабавальная і ласкавая... Яна ўзняла і тутэйшага чалавека на недасягальную вышыню...— Стары падумаў і заключыў: — Так што беларусы разам з рускімі і ўкраінцамі, з усімі савецкімі людзьмі заўсёды былі і будуць на перадавой лініі агню, такі іх характар...

Корань змоўк і паглядзеў на кацялок, у якім вада напалову выкіпела. Мы пачалі рыхтавацца піць чай. Стаяла цішыня. Толькі калі-нікалі было чуваць, як плескаліся хвалі, набягаючы на пясчаныя берагі.

*1956 г.*

# ЛЮДЗІ ПРАЦЫ— СОЛЬ ЗЯМЛІ



На святочны вечар Васілевіцкай школы-дзесяцігодкі былі запрошаны бацькі вучняў. Прыйшоў туды і старшыня калгаса «Прамень», аграном па адукацыі, Павел Міронавіч Лукашэвіч. Частка моладзі — дзяўчаты ў белых сукенках, а хлопцы ў чорных касцюмах — вальсіравала. Убаку стаяла некалькі хлопцаў. Іх у школе звалі «палітыкамі». Хлопцы

вялі гарачыя спрэчкі. Убачыўшы Паўла Міронавіча, моладзь абкружыла яго, бо ён заўсёды расказваў юнакам што-небудзь цікавае. I сёння моладзь не памылілася. Павел Міронавіч расказаў адну гісторыю, якая адбылася амаль паўстагоддзя назад.

* * *

Гэта было 30 лістапада 1917 года. Позна вярнуўся дахаты мой бацька, былы салдат царскай арміі, а потым агітатар Мірон Лукашэвіч. На вайне яго паранілі ў нагу, і ён хадзіў з кульбай.

— Наша ўзяло,— распранаючыся, абвясціў бацька. У старога ад радасці свяціліся вочы.

— Што толку з таго, што ты гойсаеш па вёсках,— стоячы ля чалесніка, упікнула маці.— У печы дровы не гараць, а пішчаць... На падпалку няма нават карчагі...

— Яшчэ які толк,— ганарыўся бацька.— 25 лістапада, у дзень выбараў ва Устаноўчы сход, наша воласць аказалася на перадавых пазіцыях — дзевяноста два працэнты сялян галасавалі за бальшавікоў. А мая мэта: пакінуць след добрых спраў у жыцці, карысных народу. Можа, калі і мяне людзі ўспомняць добрым словам.

Я, памятаю, тады спытаў бацьку:

— Што значыць дзевяноста два працэнты?

— З кожных ста чалавек — 92 галасавала за бальшавікоў,— тлумачыў ён.— Зразумела?

— Так,— сцвердзіў я.

Бацька, разглядаючы выразаны з газеты партрэт Леніна, працягваў:

— Па ўсёй Мінскай губерні (за выключэннем Мазырскага павета) за бальшавікоў галасавала семдзесят працэнтаў, а ў вёсцы — аж дзевяноста сем працэнтаў. Выходзіць, што сялянства цалкам пайшло за бальшавікамі. А яшчэ не гэта было б, каб людзі ведалі Дэкрэты аб зямлі і міры.

Я ўбачыў партрэт.

— Хто гэта?

— Ленін,— паведаміў бацька.— Старшыня Савета Народных Камісараў. Глядзі, сынку, углядайся, гэты чалавек выведзе нашу краіну на шырокія прасторы. Ён дбае пра людзей працы.

— Эт! Чаго варты твае людзі працы? — кінула маці.— Ніхто з імі не лічыцца... Масы цёмныя і забітыя. Калі казакі з панскай зямлі іх прагналі, дык яны разбегліся па полі, як зайцы...

— Гэтак было да таго, пакуль не арганізаваліся... Лютаўскую буржуазна-дэмакратычную рэвалюцыю зрабілі рабочыя і сяляне, апранутыя ў матроскія бушлаты і салдацкія шынялі, а ўладу захапіла буржуазія... Але мінулася кату масленіца... Бальшавікі на чале з Леніным сабралі сілы і так ударылі па буржуазіі, што аж пыл закурэў... Адбылася Кастрычніцкая рэвалюцыя... Але вестка аб гэтым да нас дайшла толькі сёння...

Разгарэўся ў печы агонь, весялей стала на сэрцы ў маці. Яна паставіла ў аплеценым гаршку варыць бульбу. Зацікаўленая старая падышла да стала, падкруціла кнот у лямпе і ўзяла ў рукі партрэт.

— Хоць які ён, Ленін?

— Галава! — захапляўся бацька.— Брат Уладзіміра Ільіча Аляксандр, рэвалюцыянер, народаволец, адзін з арганізатараў тэрарыстычнай групы «Народная воля», падрыхтоўваў замах на Аляксандра III, але быў арыштаваны і неўзабаве царскім судом прыгавораны да пакарання смерцю. Прыгавор ка́тамі быў прыведзен у выкананне. Уладзімір Ільіч сказаў: «Не, мы пойдзем не такім шляхам. Не такім шляхам трэ̀ба ісці».

— Вось ён які! — углядалася ў партрэт маці.— Вочы шчырыя, адкрытыя. Відаць, цвёрдага характару чалавек.— Яна павярнулася да бацькі.— Але адкуль ты ўсё гэта ведаеш?

— Ад Фрунзе, Міхаіла Васільевіча.

— Дзе ён цяпер?

— У Іванава-Вазнясенску.

— Хто ж у нас цяпер самы галоўны?

— Мяснікоў, Аляксандр Фёдаравіч. Ён сёння ў нас быў. Стварылі рэўком...

— А як будзе з зямлёю?..

— Усё добра будзе!..— У бацькі ззяў твар. Ён звярнуўся да мяне: — А ў цябе як справы, Паўлік?

— Усе пяцёркі,— адказаў я.

— Баюся я за цябе, сынку, табе ўсё лёгка даецца,— пагладзіў мае, тады густыя, валасы бацька.— У нашым родзе ўсе былі і ёсць працавітыя.

— Толькі цяпер яму і пагуляць,— азвалася маці.

— Сустрэнецца ў жыцці з першымі цяжкасцямі і занудзіцца,— адрасаваў маці бацька.— Трэба ў хлапцы выхоўваць любоў да працы.

— Не вельмі ты сам у апошні час да яе горнешся,— бубніла маці.— Вунь людзі панацягалі з казённага лесу не толькі дроў, але і бярвенняў на хаты.

— Гэтым не разбагацеюць,— спакойна адказаў бацька.— Я дбаю не толькі пра будучыню сваіх дзяцей, але і ўсяго народа.

— Не хачу слухаць! — буркнула маці.— Нічога твае людзі працы не здольны зрабіць...

— З бальшавікамі на чале з Леніным людзі працы зрабілі рэвалюцыю, стварылі Савецкую ўладу, свет на новы лад перабудуюць. Зразумей, Аксеня: людзі працы — соль зямлі.

— Я з таткам згодны,— падтрымаў бацьку я.

— Дык і я ж не супраць гэтага,— сказала, дастаючы з печы бульбу, маці.— Але з гора немаведама чаго нагаворыш...

Бацька, дастаўшы газету «Известия», звярнуўся да мяне:

— Чытай вось тут. Толькі выразна...

— «Дэкрэт аб зямлі,— голасна вымавіў я.— Памешчыцкая ўласнасць на зямлю адмяняецца неадкладна без усякага выкупу...»

— Вой, няўжо гэта праўда? — падбегла да стала маці, у старой слёзы радасці паказаліся з вачэй.— Гэта што ж, закон?

— Закон, прыняты Савецкай уладай у першы дзень яе існавання,— сцвердзіў бацька.— Тое, аб чым марылі сяляне, збылося...

Маці не адышла ад стала, пакуль я не прачытаў дакумент аб зямлі. Пасля яна занялася падрыхтоўкай вячэры. І да яе дайшло, што адбылася рэвалюцыя, якая зменіць жыццё людзей працы. Старая толькі пасля таго села за стол, калі прымацавала ў пачэсным куце хаты партрэт правадыра. І яна згадзілася, што людзі працы — соль зямлі. Не пайдзі масы за бальшавікамі, не было б і Кастрычніцкай рэвалюцыі.

* * *

Цяпер, хлопцы, вы ведаеце, як галасаваў беларускі народ за бальшавікоў у 1917 годзе. Вынікі выбараў ва Устаноўчы сход яскрава гавораць, на чыім баку былі працоўныя Беларусі. Не было б Кастрычніцкай рэвалюцыі — не было б у жыцці беларускага народа і 1 студзеня 1919 года — дня ўтварэння Беларускай ССР.

У нашым калгасе «Прамень» ёсць свае камбайны, трактары, аўтамашыны, сеялкі і касілкі; у калгасе працуе каля ста чалавек інтэлігенцыі з вышэйшай і сярэдняй адукацыяй; цяпер у нас ёсць хлеб і да хлеба, не сорамна, калі госць з дарогі зойдзе.

Я следам за бацькам і маці паўтараю: людзі працы — соль зямлі. Яны пабудуюць самае перадавое і прагрэсіўнае ў свеце камуністычнае грамадства.

*1966 г.*

## ЗМЕСТ


Перад бурай . . . . . . . . . . . . . . . 3
Світанне . . . . . . . . . . . . . . . . . 21
Абухаўцы . . . . . . . . . . . . . . . . 25
З адкрытымі сэрцамі . . . . . . . . . . . 34
На берагах Нявы . . . . . . . . . . . . . 42
Хадакі . . . . . . . . . . . . . . . . . 53
Першы рэвалюцыйны . . . . . . . . . . . 66
Птушцы — воля, чалавеку — мір . . . . . . . 84
На скрыжаванні дарог . . . . . . . . . . . 91
Людзі працы — соль зямлі . . . . . . . . . 105

**Гурскі І.**

Г 95 На берагах Нявы. Апавяданні. Мн., «Маст. літ.», 1977.

112 с. з іл.

У кнізе «На берагах Нявы» расказваецца аб жыцці і дзейнасці Леніна, аб тых незабыўных днях, калі Уладзімір Ільіч са сваімі саратнікамі кіраваў падрыхтоўкай і правядзеннем Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, стварэннем Савецкай дзяржавы.

«Абухаўцы», «З адкрытымі сэрцамі», «На берагах Нявы», «Хадакі», «Птушцы — воля, чалавеку — мір», «Першы рэвалюцыйны» — раздзелы з рамана «Вецер веку».

Г $\frac{70803\text{-}82}{М\ 302(05)\text{-}77}$ 144-77 Бел 2

Илья Данилович Гурский

НА БЕРЕГАХ НЕВЫ

Для детей среднего и старшего школьного возраста

На белорусском языке

Рэдактар У. Б. Ідэльсон. Мастак М. Л. Бельскі. Мастацкі рэдактар В. І. Кліменка. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Л. Т. Калюжная.

ИБ № 97

Здадзена ў набор 3/XI 1976 г. Падп. да друку 16/III 1977 г. Тыраж 10 000 экз. Фармат 60×84¹/₁₆. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 6,97. Ул.-выд. арк. 5,15. Зак. 3710. Цана 38 кап. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Свярдлова, 4. Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.